# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

28 чэрвеня 2019 года №26 (1261) 18+





Віншуем!



# Як застацца працаваць на пенсіі

Выбачайце,
вы нам падыходзіце,
але... Нам патрэбны
21-гадовы работнік
з 15-гадовым
стажам.

старонка 8

Фота fergusfallsjournal.com.

## Майская залева затапіла дом у Маладзечне. Жыхары пакутуюць і сёння

старонка 2

## Помнік Янку Купалу паставілі ў Кітаі. А ў Маладзечне – не

старонка 19

## Хто павінен касіць траву ў дварах

старонка 3

ISSN 1991–7155




Адсканўйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Стала вядомая праграма рэгіянальнага фестывалю «Адна зямля»

МАЛАДЗЕЧНА

Фестываль «Адна зямля» правядуць 30 чэрвеня ў Маладзечне ў амфітэатры.

У Цэнтралізаванай клубнай сістэме Маладзечанскага раёна паведамілі праграму фестывалю-конкурсу.

9.00 – 10.30 – рэгістрацыя ўдзельнікаў

10.30 – 10.45 – жараб'ёўка

12.00 – 12.20 – урачыстае адкрыццё

12.20 – 15.00 – выступленне выканаўцаў першай і другой узроставых груп

15.00 – 16.00 – канцэртная праграма калектываў аматарскай творчасці Маладзечанскага раёна

16.00 – 18.00 – выступленне выканаўцаў трэцяй і чацвёртай узроставых груп

18.00 – 20.00 – канцэртная праграма народнага вакальнага гурта «Маладзечна»

20.00 – узнагароджанне пераможцаў, гала-канцэрт.

«Адна зямля» – рэгіянальны фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праводзіцца па чарзе ў адным з раёнаў Беларускага Павілля і Валожыншчыне: Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім і Валожынскім Мінскай вобласці і Смаргонскім, Ашмянскім, Астравецкім Гродзенскай вобласці.

«Рэгіянальная газета» – адна з заснавальнікаў фестывалю.

**Аддзел інфармацыі.**

## Актывісты наведалі месца расстрэлу Расціслава Лапіцкага

ВІЛЕЙКА

Днямі актывісты традыцыйна наведалі месца расстрэлу **Расціслава Лапіцкага** – патрыёта, які аддаў сваё жыццё за Беларусь.

Дзякуючы неабыякавым вілейчукам тут, ва ўрочышчы Красны Беражок, на Вілейшчыне, стаяць крыжы. Месца даглядаюць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гарманальныя кантрацэптывы і іншыя лекі – па рэцэпту

Ад 24 чэрвеня скарэктавалі Пералік лекаў, што адпускаюць без рэцэпта.

Ад сёння без рэцэпта доктара вы ўжо не набудзеце гарманальныя таблеткі-кантрацэптывы. Цяпер вам іх будзе выпісваць доктар, калі няма супрацьпаказаннянаў.

Па рэцэпту цяпер будуць адпускаць прэпараты тыпу метфармін, глюкафаж, сіафор. Яны зніжаюць узровень глюкозы ў крыві.

Таксама стала больш антыбіётыкаў, якія прадаюць выключна па рэцэпту.

Пра гэта нам расказалі ў адной з аптэк Маладзечна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Бальніца атрымала абсталяванне, а дактары навучыліся па-новаму лячыць

ВІЛЕЙКА

Днямі прадстаўнікі мясцовых уладаў Вілейкі сустрэліся з работнікамі «Вілейскага хлебозавода» ААТ «Барысаўхлебпрам».

Намеснік старшыні па эканоміцы **Марына Вазняк** і кіраўнікі структурных падраздзяленняў райвыканкама распавялі аб стане спраў і выкананні паказчыкаў.

– Многія прадпрыемствы не дацягваюць да даведзеных ім паказчыкаў, але сітуацыя паступова выраўніваецца, – адзначыла Марына Пятроўна.

Кіраўнік УП «Вілейскае ЖКГ» **Віктар Паўлоўскі** адзначыў, што на сёння дзейнічае адзіны тэлефонны нумар для зваротаў у службу ЖКГ – 115.

«Калі аналізаваць звароты за апошнія дні па дадзеным нумары, то большасць іх тычылася якасці вады. Многія жыхары скардзіцца на яе мутнасць і слабы напор.

Пагаршэнне якасці вады ў вадаправодзе звязана з вялікім разборам: у гарачае надвор'е людзі сталі часцей палівадзь агароды, ад чаго пакутуюць шматпавярховікі, растлумачыў Віктар Іосіфавіч.

Да дырэктара ЖКГ звярнуліся з пытаннем па арганізацыі выгулу сабак. Многія скардзяцца, што няма ўстаноўленых месцаў для выгулу ў кожным мікрараёне горада.

Аб развіцці сферы аховы здароўя распавёў галоўны доктар Вілейскай ЦРБ **Ігар Спільнічэнка.** Галоўная тэма апошніх дзён – гэта ўстаноўка ў хірургічным корпусе бальніцы новага сучаснага камп'ютарнага тамографа.

Раённая бальніца за апошні час атрымала новае ультрагукавое абсталяванне.

А спецыялісты засвоілі новую методыку лячэння варыкозу – эндавянозная лазерная каагуляцыя – лячэнне дадзенай праблемы лазерам.

**Паводле Вілейскага райвыканкама.**



Жыхары дома Аляксандр Яроменка і Соф'я Юрэцкая распавядаюць пра тое, як падчас дажджу затаплівае двор.

# Плавалі дываны і тапачкі

## Жыхары, УП «Камунальнік» і праваабаронца – пра затапленне дома на Гарадоцкай

**Старэнькі двухпавярховы дом, збудаваны ў Маладзечне ў 1953 годзе на Гарадоцкай, 108 не значыцца на картах у інтэрнэце. І таксісты не ведаюць гэтага адраса. Тут газ – у балонах на кухні, гарачая вада – з перабоямі. А ў канцы мая дом затапіла.**

МАЛАДЗЕЧНА

### Жыхары: на падлозе было вады па костку

Памятаеце, як Маладзечна накрыла моцная залева? Жыхары гэтага дома не забудуць дакладна.

Ноччу з 24 на 25 мая жыхары першага паверха прачнуліся, бо пачулі, як па падлозе ліецца вада.

– Я лягла спаць. Чую: плешчацца нешта. Уключыла святло – а падлога ў вадзе. Дываны і тапачкі плаваюць. Што рабіць? – прыгадвае тую ноч жыхарка кватэры №1, пенсіянерка **Соф'я Юрэцкая.** – Ва ўсіх пакоях – вады па костку. Знізу мокне мэбля. Вада псуе пыласос і ноўтбук, якія стаялі на падлозе.

Жанчына патэлефанавала дачцэ. Тая – у ГРАНС Маладзечна. Выратавальнікі прыехалі хутка, пачалі адпампоўваць ваду і супакойваць жыхароў.

Большасць жыхароў дома – сталыя людзі. Некаторых забіралі родныя. А Соф'я Юрэцкая, крыху сабраўшы з дапамогай дачкі ваду, так і сядзела да раніцы. Бо ад стрэсу не магла заснуць. А назаўтра, пакуль сохла кватэра, паехала ў вёску да сястры.

– Толькі праз тыдзень да нас прыйшлі з ЖРЭУ-6, – распавядае Соф'я Юрэцкая. – Паглядзелі, пафатаграфавалі. Сказалі, што кампенсацыі мы не атрымаем, бо кватэры незастрахаваныя.

Да размовы далучылася жыхарка кватэры №2 **Зінаіда Грабёнкіна:**

– Жыву тут ад 1960-ых гадоў. Такі патоп бачу першы раз. Ад вады стаў дрэнна працаваць маразільнік. У мяне пасля перажытага стрэсу пагоршылася здароўе. Дываны да сёння сушацца на вуліцы.

Калі здарыўся патоп, Зінаіду Данілаўну забралі да ўнучкі.

Сусед, што звярнуўся ў «РГ» праз нашу старонку ў Твітары **twitter.com/rhby**, малады бацька **Аляксандр Яроменка,** жыве на другім паверсе. З яго маёмасці крыху пацярпела толькі тая, што была ў павеці побач з домам. Але, па словах Аляксандра, кожны вялікі дождж для жыхароў дома – бяда. Вада ляціць адусюль, а сыходзіць цяжка.

### Камунальнік: патоп – з-за дажджу і ландшафту. Ліўнёўкі – у парадку

Жыхары дома звярнуліся па каментарыі ва ўнітарнае прадпрыемства «Камунальнік». У хуткім часе атрымалі адказ. У дакуменце тлумачаць, што падтапленне адбылося з-за дажджу і ландшафтнага ўчастку. Паколькі кватэры не застрахаваныя, кампенсацыі не прадугледжана.

Спецыялісты праверылі ліўнёвую каналізацыю. Лічаць, што яна цалкам выконвае сваю функцыю.



Так выглядаюць кватэры пасля патопу.

### Праваабаронца: з маральнага пункту гледжання горад павінен дапамагчы

Пракаментаваць сітуацыю мы папрасілі прадстаўніка Беларускага хельсінскага камітэта, праваабаронцу **Эдуарда Баланчука.**

– Улады маюць рацыю, калі кажуць пра страхоўку. Калі паўторыцца падобнае надвор'е, дом ізноў залье. Таму жыхарам першага паверха сапраўды лепш застрахаваць кватэры. Але і да ўладаў ёсць пытанні: калі ўсё ў парадку з ліўнёўкамі, чаму затапіла кватэры?

Хаця, па словах Эдуарда, з маральнага пункту гледжання мясцовы бюджэт павінен быў падтрымаць матэрыяльна жыхароў затопленага дома. Гэта ж не яны ўчынілі такую сітуацыю.

– Калі б у нас гараджане абіралі мэра, то ён быў бы зацікаўлены ў іх павазе. Прыехаў бы на месца, ацаніў бы сітуацыю. Спытаў бы ў супрацоўніка, які адказвае за фінансы, колькі грошай ёсць у бюджэце і дапамог бы. Бо грошы ў бюджэце – гэта падаткі тых самых гараджан, – падсумаваў праваабаронца.

**Аксана ЯРАШОНАК**
**Фота аўтара.**

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*



Майстар за працай.

# Хто адказвае за пакос травы ў дварах?

**Догляд за расліннасцю, у тым ліку лугавымі, партэрным і звычайнымі газонамі, з’яўляецца часткай добраўпарадкавання гарадскога асяроддзя. А ва ўмовах загазаванасці горада 3-5 сантыметраў травы, што засталася пасля касьбы, дастаткова, каб не парушыць экалагічную сітуацыю.**

Пакос таксама адбіваецца на бяспецы гараджан.

**Вясенне-летні перыяд супадае з сезоннай актыўнасцю кляшчоў, якія, насуперак распаўсюджанай памылцы, аддаюць перавагу сяліцца не на дрэвах, а ў хмызняках і траве.**

Таму асабліва прарослая трава можа прадстаўляць небяспеку для гараджан і іх гадаванцаў.

«Рэгіянальная газета» звязаліся з дырэктарам смаргонскага ЖРЭУ **Марыяй Вікецэўнай Каравецкай**, каб яна адказалі на самыя частыя пытанні пра пакос травы ў горадзе.

Дырэктар адзначыла, што ЖРЭУ займаецца тэхабслугоўваннем жылых дамоў і добраўпарадкаваннем прыдамавых тэрыторый. А ЖКГ працуе непасрэдна ў горадзе: сочыць за касьбой травы на вуліцах, цэнтральных парках, бульварах.

### Кожны горад дзеліцца на ўчасткі

Абсалютна кожны беларускі горад дзеліцца на ўчасткі, на якіх працуюць ЖРЭУ ці ЖКГ. А ў Маладзечне пакосам травы займаецца асобная арганізацыя – Зеленгас. У сталіцы за добраўпарадкаваннем сочыць Зелянбуд.

Пад наглядам смаргонскага ЖРЭУ – Усходні, Цэнтральны, Карані, ДОСы. У кожным мікрараёне ёсць майстэрні вытворчыя ўчасткі, за якія адказныя майстры ЖЭС. Над усімі ўчасткамі ёсць начальнік ЖЭС – **Марыя Вікенцьеўна Каравецкая**.

### Траву косяць па меры неабходнасці

Раней дзейнічала Пастанова №12, па якой пакос травы праводзіўся з мая па верасень не радзей двух разоў на месяц. Цяпер ніякіх нормаў няма, як і графіка пакосу травы.

**По словах Марыі Вікенцьеўны, пакос травы трэба праводзіць прыкладна раз у тры тыдні. Аднак усё будзе залежаць ад надвор’я: мікраклімату паветра, тэмпературы і вільготнасці.**

– Аднойчы мы рыхтаваліся да семінара «Паўночны вектар», які праходзіў у 7-й школе ў Смаргоне. Была такая прыпарка, дождж. За два дні ўсё дзьмухаўцы падняліся, і мы касілі зноў. Ведаеце, усё залежыць ад умоў надвор’я, – расказвае Марыя Вікенцьеўна.

### Як адбываецца пакос

Пакос праводзяць майстры. Яны карыстаюцца механізаванымі касілкамі, міні-трактарамі і ручнымі мота-косамі. Усё залежыць ад канкрэтнай тэрыторыі. Пасля траву прыбіраюць працоўныя па комплекснай уборцы.

### Пакос травы на платнай аснове

Пакос травы праводзіцца на ўчастках і на платнай аснове.

**Для гэтага можна звязацца з мясцовым аддзяленнем ЖЭС і замовіць паслугу.**

Прэйскурант можа знаходзіцца на сайце арганізацыі або гэтае пытанне можна ўдакладніць непасрэдна па тэлефоне.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 20.06 | 27.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0625 | **2.0395** |
| Еўра | 2.3094 | **2.3164** |
| Злоты, 10 | 5.4168 | **5.4335** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2251 | **3.2437** |
| Грыўня, 100 | 7.8200 | **7.7915** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **19.06** | **26.06** |
| Еўра | 2.2900/2.3200 | **2.3000/2.3250** |
| Долар ЗША | 2.0450/2.0670 | **2.0320/2.0520** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **19.06** | **26.06** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,39** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,70 | **3,65** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | – | **–** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **15,00** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,90** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **3,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,22 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,20 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **0,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 3,90 | **2,50** |
| Бульба, 1 кг | 1,90 | **1,50** |
| Буракі, 1 кг | 1,60 | **1,50** |
| Кабачок, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | **0,80** |
| Морква, 1 кг | 1,80 | **2,00** |
| Лісічкі, 200 мл | 2,00 | **2,00** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **2,30** |
| Перац, 1 кг | 5,90 | **3,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,60** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 4,90 | **4,00** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,90** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Дыня, 1 кг | – | **4,50** |
| Кавун, 1 кг | 3,50 | **2,00** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **3,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Слівы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | 5,50 | **3,50** |
| Чарніцы, 500 мл | – | **2,00** |
| Чарэшня, 1 кг | 6,50 | **5,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **–** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **–** |
| Мёд, 500 мл | – | **7,50** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Кіроўца збіў раварыстку і адвёз дамоў. Адтуль яе забралі ў бальніцу

АСТРАВЕЦ

Каля вёскі Тракенікі на Астравеччыне пад машыну трапіла веласіпедыстка.

Кіроўца «Вольвы» на прамым участку дарогі рабіў абгон. У гэты час рухалася ў спадарожным напрамку практычна па сярэдзіне праезнай часткі пенсіянерка.

У двух дзясятках метраў ад аўтамабіля жанчына выехала на сустрэчную паласу.

Пасля наезду яна ні на што не скардзілася і ніякіх прэтэнзій не выказвала. Кіроўца адвёз яе дадому і з жонкай з'ехаў па сваіх справах. А пазней пенсіянерку забралі ў бальніцу.

Знайсці «Вольву» дапамог запіс камеры назірання.

**Паводле УУС Гродна.**

## Загарэлася кватэра. Верагодна, з-за свечкі

СМАРГОНЬ

Пажар здарыўся 22 чэрвеня каля гадзіны ночы.

Гарэла аднапакаёвая кватэра на першым паверсе двухпавярховага жылога дома па вуліцы Савецкай. Агонь пашкодзіў канапу і пасцель, а таксама частку сцяны ў кватэры.

Прычыну высвятляюць. Магчыма, кватэра загарэлася з-за свечкі, якую гаспадыня пакінула наноч на тумбачцы.

**Паводле сайта МНС.**

## Жанчыне падалося, што яе збіраюцца згвалтаваць

СМАРГОНЬ

Змазаным атрымалася святкаванне прысваення спецыяльнасці «Повар» для грамадзяніна 1986 года нараджэння ў Смаргоні.

19 чэрвеня 33-гадовы смаргонец з чатырма жанчынамі адправіўся на вуліцу Кірава ў райцэнтры да ракі, каб адзначыць паспяховую здачу выніковага экзамена ў каледжы. Выпівалі.

Прабыўшы некалькі гадзін на прыродзе, тры дамы з'ехалі дадому на таксі. Чацвёртая засталася, бо добра выпіла і заснула. На паляне таксама застаўся і адзіны ў кампаніі 33-х гадовы мужчына.

Праз гадзіну ён вырашыў, што трэба ехаць дадому, і пачаў будзіць спячую сяброўку.

Спачатку нічога не атрымлівалася. Але калі ён прыўзняў жанчыну, тая раптам прыйшла ў сябе і пад уздзеяннем алкаголю, не разабраўшыся ў сітуацыі, падумала, што яе спрабуюць згвалтаваць.

Жанчына стала крычаць, клікала на дапамогу. У гэты час міма праязджаў на ровары іншы 57-гадовы жыхар Смаргоні нараджэння. Пачуўшы крыкі жанчыны, і ўбачыўшы побач мужчыну, раварыст паспрабаваў умяшацца ў сітуацыю, аднак тая набыла трагічны абарот.

Грамадзянін, які спрабаваў падняць жанчыну, агрэсіўна стаў тлумачыць, што ён не гвалтаўнік, а пасля дастаў з кішэні складаны ножык і нанёс ім чатыры ўдары ў вобласць жывата і грудзі апанента. Жанчына, з-за якой і адбыўся інцыдэнт, адразу ж выклікала міліцыю.

Мужчына, які нанёс раненні, спалохаўся, схаваў нож. Міліцыянерам стаў распавядаць, што траўміраваў чалавека зламыснік, які выскачыў з кустоў, а пазней гэты невядомы хацеў напасці і на яго самога. Гэтая версія не пацвердзілася, а неўзабаве праваахоўнікі ўстанавілі аб'ектыўную карціну таго, што адбылося.

Цяпер у дачыненні да раней несудзімага повара распачатая крымінальная справа па артыкуле «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання».

**Паводле УУС Гродна.**

## На прадпрыемстве мужчыну наскрозь прабіла дошка

АСТРАВЕЦ

21 чэрвеня ў 7:10 астравецкім выратавальнікам паступіла паведамленне з просьбай дапамагчы мужчыну, які атрымаў пранікальную траўму.

Няшчасны выпадак адбыўся ў вёсцы Альхоўка Астравецкага раёна на прадпрыемстве па вытворчасці скрынкавага кардона.

Мяркуюць, з-за выкіду трохметровай дошкі адбылося скразное раненне 37-гадовага работніка. Пры гэтым дошка засела ў брушнай поласці.

Выратавальнікі, выкарыстоўваючы гідраўлічны і рэжучы інструмент, вызвалілі пацярпелага і перадалі брыгадзе хуткай медыцынскай дапамогі.

Траўмаванага мужчыну забралі ў раённую бальніцу.

**Паводле сайта МНС.**



Калега пакінуў мабільнік у куртцы, пасля чаго не далічыўся больш за 600 рублёў.

Фота dpchas.com.ua.

# Скраў тэлефон калегі, каб перавесці сабе яго грошы

АСТРАВЕЦ

**Крадзеж адбыўся ў сакавіку ў модулі бытавога гарадка на будаўнічым аб'екце Беларускай атамнай станцыі. Прыладай злачынства стаў мабільны тэлефон.**

Адзін з работнікаў аб'екта пакінуў свой мабільны тэлефон у куртцы, якую зняў і павесіў на вешалку ў распранальні. Яго калега Аляксей узяў тэлефон пацярпелага і пры дапамозе дадатка смс-банкінга перавёў з яго рахунка на свой 8000 расійскіх рублёў. Гэта каля 250 беларускіх рублёў.

Ён правёў аперацыю з тэлефона, да якога была прывязаная банкаўская картка. Банк выслаў код для пацвярджэння інфармацыі, які зламыснік, маючы ў руках тэлефон, адразу ўвёў.

Затым зламыснік у дадатку ўвёў непраўдзівую інфармацыю пра карыстальніка карткі пацярпелага – змяніў першапачатковыя звесткі, каб прывязаць карту калегі да свайго тэлефона. Гэта дазволіла перавесці на свой рахунак яшчэ 11 тысяч расійскіх рублёў. Гэта каля 350 рублёў.

Агульная шкода склала больш за 618 рублёў. Яе пакрыў пацярпеламу бацька Аляксея.

Абвінавачаны прызнаў віну цалкам.

Аляксея прызналі вінаватым у крадзяжы праз змяненне інфармацыі, апрацаванай у камп'ютарнай сістэме. Таксама ва ўнясенні ў камп'ютарную сістэму непраўдзівай інфармацыі, звязанай з несанкцыянаваным доступам да інфармацыі. Суд прызначыў пакаранне ў выглядзе арышта на адзін месяц.

Асуджаны – 33-гадовы ўраджэнец Казахскай ССР з вышэйшай адукацыяй, разведзены. Працаваў электрамантажнікам. Раней не судзімы. Мае малое дзіця.

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ, старшы памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

## Падазраюць у супрацьпраўных дзеяннях у дачыненні да дзяцей

МАЛАДЗЕЧНА



У Маладзечне праваахоўнікі шукаюць магчымых пацярпелых ад дзеянняў 51-гадовага мясцовага жыхара, якога падазраюць у супрацьпраўных дзеяннях у дачыненні да непаўналетніх.

Першапачатковая інфармацыя пра супрацьпраўныя дзеянні ў дачыненні да малалетніх паступіла ў Маладзечанскі РАУС дзявятага чэрвеня.

Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў звесткі пацвердзіліся. Супрацоўнікі аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі, а таксама аддзела крымінальнага вышуку затрымалі падазраванага.

Ім аказаўся 51-гадовы беспрацоўны жыхар Маладзечна. Раней прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за ўчыненне цяжкіх злачынстваў, паведамляюць у Маладзечанскім РАУС

Ёсць падставы меркаваць, што затрыманы можа быць датычны да іншых аналагічных злачынстваў супраць палавой недатыкальнасці.

Ахвярам мужчына не прадстаўляўся па імені. Дзецям і падлеткам незнаёмец мог запомніцца вялікім памерам нагі. Мужчына худы і высокі ростам.

Маладзечанскі РАУС звяртаецца з просьбай да грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй аб супрацьпраўнай дзейнасці мужчыны на фота, паведаміць у раённы аддзел міліцыі па тэлефонах: **8 (0176) 77-19-11, 8 (029) 154-37-60, 8 (0176) 77-16-56** (аператыўна-дзяжурная служба), **102** альбо па адрасе Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23.

Канфідэнцыяльнасць гарантуецца.

**Аддзел інфармацыі.**

## Шукаюць хлопца, які не даехаў з бальніцы дамоў

МАЛАДЗЕЧНА



Маладзечанскі РАУС шукае зніклага без звестак 22-гадовага маладзечанца Іллю Мікалаевіча Якубчыка.

Хлопец жыве ў Маладзечне, на вуліцы Дразловіча, дом 12, кватэра 26.

21 чэрвеня ён выпісаўся з бальніцы ў Мінску, аднак дадому не прыехаў.

**Прыкметы на момант знікнення:** на выгляд 22-25 гадоў; рост 165-170 сантыметраў; сярэдняй паўнаты; бледны твар; прамыя бровы; авальныя вушы; прамыя светла-русыя, кароткія валасы, звонкі голас; ясная гаворка; памер абутку 42-43.

Пра вопратку і асаблівыя прыкметы звестак няма.

**Пры сабе меў:** пашпарт на сваё імя, заплечнік шэрага колеру.

Пераканаўча просім грамадзян, якія ведаюць што-небудзь пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах **(8-0176) 749683, (8-0176) 771656, (8-029) 5464044, (8-029) 5554971** або ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэл **«102».**

**Вадзім ПРЫГАРА, начальнік Маладзечанскага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.**

# Французскі фатограф прыехала ў Заскавічы

МАЛАДЗЕЧНА

**На мінулым тыдні ў Заскавічах Маладзечанскага раёна працавала фатограф з Францыі Кладзін Дары.**

Кладзін больш за 30 гадоў здымае жыццё і моладзь на прасторах былога СССР.



Наталля і Юля Валынец з Заскавічаў.

**Фатограф з Расіі Дар'я Тумінас так ацэньвае яе працы: «Яна здымае працэсы, якія адбываюцца ў нашым грамадстве і метамарфозы юнацкіх зменаў».**

Напачатку 90-х францужанка здымала праекты і некаторы час была ў Віцебску. І па сёння памятае тых прыгожых жанчын, з якімі сябравала і была знаёмая. З усмешкай прыгадвае, як аднойчы яе сяброўка і мадэль плавала на кані ў вадзе і часам верхам прыязджала праведаць Кладзін у самы цэнтар Віцебска. І з сумам дадае: «Цяпер такое і ў вас не пабачыш».

Сябра сусветнавядомага фотаагенства VU і арганізатар аднаго з самых галоўных у свеце фотафестываля Paris photo, уладальніцтва мноства прэстыжных узнагарод у сераду наведала вёску Заскавічы Маладзечанскага раёна. Натхненнем сталі дзве сёстры, **Наталля** і **Юля Валынец** 12 і 17 гадоў, самыя звычайныя дзяўчынкі.

Кладзін шукала класічную прыгажосць на мінскіх вуліцах і пляжах. А знайшла патрэбнае ў адным з дамоў на вясковай вуліцы.

«Наталля неверагодна прыгожа і статна сябе паводзіць. Яна натуральна і прыгожа пазіруе, ей не патрэбна нічога казаць, бо калі параіш, як лепей – толькі сапсуеш. Яе твар, як з карціны эпохі рэнесанса. Са старэйшымі складаней, яны пачынаюць пазіраваць ненатуральна. А тут усё вельмі лёгка і прыгожа».

Гэтым летам Кладзін распачала свой новы праект, матэрыял для якога збірае ў Беларусі.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**
**Фота аўтара.**

## Што адказаў Маладзечанскі райвыканкам на петыцыю аб пераносе ЗАГСа

**5 чэрвеня жыхары Маладзечна размясцілі петыцыю па пытанні пераносу ЗАГСа.**

Паводле генплана забудовы горада будынак плануюць перанесці на цяперашнюю пляцоўку збоку ад Цэнтральнай плошчы, насупраць дзіцячай школы мастацтваў.

У звароце звяртаюць увагу на тое, што ў горадзе ёсць больш актуальныя праблемы, на якія варта выдаткаваць сродкі. Сярод іх аўтары петыцыі назвалі будаўніцтва школ і дзіцячых садкоў у 11 і Залінейным мікрараёнах. Рамонт і закупку рэнтген-апаратаў, флюарографаў і холтараў. Якасны рамонт дарог і дваравых тэрыторый. Абнаўленне аўтапарка і паляпшэнне сістэмы грамадскага транспарта. Абсталяванне горада велапаркоўкамі, арганізацыя веладарожак і месцаў для выгула сабак.

На сёння пад петыцыяй падпісалася 346 чалавек.

21 чэрвенем адказ райвыканкама на петыцыю даў першы намеснік старшыні, начальнік упраўлення па сельскай гаспадарцы і харчаванні **Аляксей Раманюк**.

У яго адказе пазначана, што ў будучым будынку будзе размяшчацца не толькі аддзел ЗАГС, але і служба «адно акно». Па меркаванні кіраўніцтва раёна, гэта будзе адным з мерапрыемстваў па паляпшэнні цэнтральнай часткі горада і завершыць архітэктурны ансамбль «Цэнтральная плошча».

У адказе таксама пазначана, што цяперашняе памяшканне ЗАГСа не цалкам адпавядае тэхнічным, эстэтычным і санітарным патрабаванням. Асаблівай увагі вартае памяшканне архіва ўстановы, якое патрабуе неабходных умоў для захоўвання актаў грамадзянскага стану.

Таму згодна з генпланам для ЗАГСА вызначылі будынак у цэнтры горада.

Для даведкі адказ звяртае ўвагу, што каля 13 тысяч грамадзян звяртаюцца ва ўстанову штогод. Летась супрацоўнікі выканалі 11 тысяч адміністрацыйных працэдур, выдалі каля 10 тысяч дакументаў, зарэгістравалі 600 пар маладых.

**Аддзел інфармацыі.**

# Лепшыя юныя лінгвісты ў шосты раз сабраліся ў летніку «SMART CAMP»

МАЛАДЗЕЧНА

**19 чэрвеня ў Маладзечанскай санаторнай школе-інтэрнаце ўрачыста адкрылі аздараўляльны лінгвістычны англа-кітайскі летнік «SMART CAMP». Тут сабраліся юныя лінгвісты з усёй Беларусі.**

Такі летнік школа прымае ў шосты раз. Чаму штогод Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі абірае менавіта гэтую ўстанову?

– Таму што мы маем досвед і можам аказаць шмат паслуг для дзяцей, – распавядае начальнік летніка **Алена Прэсняцова.** – Акрамя таго, што дзеці тут вывучаюць замежныя мовы, яны наведваюць клубы, гурткі, студыі, творчыя майстэрні. Могуць навучыцца страляць з лука, штодзень ходзяць у школьны басейн, ездзяць на экскурсіі па рэгіёне, наведваюць тэатр і кіно.

Па словах начальніка летніка, у «SMART CAMP» трапілі высокаматываваныя дзеці з усёй Беларусі. Спісы складалі ў Мінскім абласным інстытуце развіцця адукацыі.

Усе дзеці – прадстаўнікі школ і гімназій, якія маюць значныя дасягненні ў вывучэнні англійскай і кітайскай моў. Сярод іх – пераможцы рэспубліканскіх і міжнародных лінгвістычных алімпіяд і навукова-практычных канферэнцый.

**Сёлета ў летнік трапіла 60 чалавек. З іх сфарміравалі чатыры атрады: у двух – дзеці, што вывучаюць кітайскую мову, у двух – англійскую.**

18 дзён юныя лінгвісты будуць тут адпачываць і займацца. Ад раніцы да абеду заняткі па мове будуць праводзіць выхавальнікі – студэнты Беларускага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. З дзецьмі таксама будуць займацца дзве валанцёркі-кітаянкі **Сун Нін** і **Ду Сыюань,** што працуюць у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, і прадстаўнік амерыканскай амбасады **Крысцін Хан.**

Пасля заняткаў – абавязковыя культурныя мерапрыемствы. Але і іх па магчымасці будуць праводзіць на замежных мовах.

Падчас урачыстага адкрыцця летніка педагогі і вучні санаторнай школы-інтэрната распавялі пра гісторыю Маладзечна, пачынаючы ад 1388 года – даты, калі быў заснаваны горад.

Настаўнік **Ігар Шкаруба** ў вобразе князя **Дзмітрыя Карыбута** прачытаў грамату, дзе ўпершыню згадваецца Маладзечна. А юныя танцоры прадэманстравалі ўдзельнікам і гасцям летніка паланэз Агінскага.

Начальнік вучэбна-метадычнага аддзела грамадска-гуманітарных дысцыплін Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі **Наталля Радзевіч** падзякавала кіраўнікам школы і летніка і назвала адкрыццё «SMART CAMP» значнай падзеяй для Беларусі.



Падчас выканання песні Дзмітрыя Рудыка.

– Паспяховы чалавек – гэта той чалавек, які ведае культуру сваёй краіны і паважае культуры іншых краін, – адзначыла Наталля Казіміраўна. – Спадзяюся, вашы педагогі ў летніку не толькі вучаць з вамі замежныя мовы, а таксама не забываюцца пра беларускую мову і культуру.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Аліна Ібрагімава.



Ігар Шкаруба.

УНП 600128662

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб’яву

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• Нісан Прым’ера, Альмера, 1996 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно 19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Сітраен Ксара Пікасо, 2000 г.в., 1,8 бензін, прабег 280 000 км, адна гаспадыня. Т. (8-029) 6428296 Вэлком.

• УАЗ-469. Т. (8-029) 3266174 Вэлком.

• Шкода Актавія, 2010 г.в, цёмна-шэры, прабег 194 000 км, у выдатным стане, 12 000 рублёў. Т. (8-029) 5026948.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Ваша аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-033) 6675566.*

• Любое аўто на ходу для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Фольсваген Т2, Т3, 1985 – 1991 г.в. у акуратным стане. Можна толькі кузаў. Т. (8-029) 7754806.

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Драздовіча з еўрарамонтам (рабілі для сябе з якасных матэрыялаў) і сучаснай новай мэбляй. Т. 98-029) 9263395.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Валожыне, 46,1 кв. м, 5 паверх. Т. (8-01772) 57861, (8-029) 9111113.*

• 2-пакаёвая кватэра ў вёсцы Гарадзілава. Цана 21 000 рублёў. Т. (8-029) 9406199.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Кастрычніцкая,-дом 34, кв.2 з усімі выгодамі, на першым паверсе. Т. МТС (8-029) 8597614.*

• Дом драўляны ў в. Замошша, дом 8, Вілейскага раёна, 6х12, 72 кв. м, участак 20 сотак, святло, калодзеж, дзве печы. Т. (8-029) 2709140.*

• Дом жылы з зямельным участкам, гаспадарчымі пабудовамі, у Пастаўскім раёне, агра «Навасёлкі-Лучай». Побач прыпынак аўтобуса, прыпынак чыгункі, 5 900 рублёў. Т. (8-029) 5123180.

• Дом у в. Дубіна Валожынскага раёна. Т. (8-029) 5554926, (8-029) 6475203 Аляксей.*

• Дом у в. Кавалі, Ільянскі с/с. Т. (8-029) 1353067.*

• Дом у в. Кавалі, плошча 40 кв. м, гаспадарчыя пабудовы. Цана 9 000 рублёў. Торг да месяца. Т. (8-029) 7722790.

• Дом у вёсцы Нясцёркі на беразе водасховішча (500 м),побач лес (200 м), гаспадарчыя пабудовы, пячное ацяпленне, па вуліцы праведзены газ. Цана дагаворная.Т. (8-033) 6915981.*

• Дом у вёсцы. Частковыя выгоды. Т. (8-0176) 723235, (8-029) 7632306.

• Дом у дачным пасёлку «Дружба» в. Прынта. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5448700.*

• Участак 16 сотак на беразе ракі Нарачанка. Т. (8-025) 7908663, +370 67656098 (вайбер, вацап).*

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 2444916.

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Печы. Кладка. Рамонт. Дацкевіч В.Г. КА 7949758. Т. (8-044) 4771719.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, маніцораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнеўпорная, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар самаробны, матаблок, прычэп і навясное абсталяванне. Т. (8-029) 6257764.*

• Трактар МТЗ-80 (з пагрузчыкам, адвалам, каўшом, віламі), да яго акучнік, культыватар, плуг. Т. (8-029) 1598893.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік. Т. (8-029) 3395974.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабан свойскі, 130-150 кг. Т. (8-029) 6591378.

• Козачка дойная, выдатная. Нядорага. Тэрмінова! Т. (8-029) 1625227, (8-01771) 38262.

• Шчанюкі нямецкай аўчаркі. Т. (8-029) 9222029.

**Іншае**

• Дровы колатыя, калодкі. Ваш памер. Т. (8-029) 6106061.*

• Лодка дзюралевая «Казанка», Маладзечна. Т. (8-029) 3266174 Вэлком.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-0290 2572438.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Літаратуру на польскай або іншых заходнеславянскіх мовах. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

### ІНШАЕ

• Вазьму спадарожнікаў у Беласток. Бясплатна. Т. (8-029) 2664373.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель-экспедытар, міжнароднік. ІП Янковіч В.В. УНП 500006889. Т. (8-029) 1338497.*

• Настаўнік па рабоце з камп’ютарам. Т. (8-029) 5019550.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Брыгада дахаўшчыкоў выканае любыя віды даху; рэканструкцыя старых дахаў. Т. (8-029) 5080891.*

• Шукаю работу. Досвед: тынкоўка, малярныя работы, работы з гіпсакардонам, пластык, вагонка, ламінат, будаўнічыя работы. Т. (8-029) 5526667 Вэлком.

• Шукаю работу: дэмантажныя, бетонныя работы. Агароджы. Т. (8-044) 7556706, (8-033) 3160206.

# Як застацца працаваць на пенсіі

**МАЛАДЗЕЧНА**
**ВІЛЕЙКА**

**Пенсійны ўзрост павялічаны, а сярод вакансій усё часцей сустракаецца «да 40 год». У многіх жыхароў рэгіёна з кожным днём нараджэння пасля 40 усё ярчэй чырвонай лямпачкай гарыць жаданне абы дапрацаваць да пенсіі.**



Некаторых працуючых пенсіянераў у арганізацыях цэняць больш за маладых спецыялістаў.

Паразмаўляць пра тое, як жывецца працуючым пенсіянерам, няпроста. Многія з іх баяцца свяціцца – раптам кіраўніцтва падумае, што яны засядзеліся на сваёй пасадзе, і папросіць даць дарогу маладым. Некаторыя застаюцца на пенсіі, каб зарабіць і дапамагчы грашыма дзецям і ўнукам. Іншыя не хочуць сумаваць без справы.

Ёсць дзве асноўныя катэгорыі пенсіянераў, якія працуюць. У першай тыя, хто працуе на адной пазіцыі шмат год – інжынеры, настаўнікі, эканамісты.

**У такога спецыяліста настолькі вялікі досвед, што падаецца, звольніш яго – і рассыплецца якая-небудзь сценка арганізацыі.**

У другой тыя, хто вяртацца на былую службу не збіраюцца, але хочуць падпрацаваць на нескладаланай пазіцыі. Напрыклад, вартаўніком.

### Адпрацавала на пенсіі 15 год у школе

**Роза Шэрая** працавала ў Ільянскай школе настаўнікам рускай і беларускай мовы і літаратуры, а таксама кіравала школьным народным музеем «Вілейшчына літаратурная». Да 70 гадоў жанчына заставалася працаваць.

– Сыйшла з працы я па добрай волі. У нас на Браслаўшчыне лецішча, і мужу было сумна там бавіць час без мяне.

**Я любіла працу і паважала адміністрацыю, усе 15 год да мяне добра ставіліся.**

На пытанне, прасцей ці цяжэй працаваць пенсіянеру, былы настаўнік адказала:

– Лепш у тым, што ўжо не залежыш ад дзяцей і ўнукаў. Маеш час шмат працаваць, жаданне. Справа, да якой прывык, даецца лягчэй. А нас жа выхавалі ў час, калі думаеш спачатку пра Радзіму, а пасля пра сябе. З іншага боку, хутчэй стамляешся, ужо не той слых і зрок.

На думку жанчыны, кіраўніку варта ацаніць, ці пакідаць працаўніка на працы.

**– Калі чалавек сапраўды прыносіць карысць і мае сілы, чаму ж не пакінуць? Ёсць такія спецыялісты, якіх вельмі складана замяніць. Лічу, 70 год – нармальны ўзрост, каб закончыць працу.**

Роза Шэрая разумее і жаданне з першага дня пенсіі закончыць прафесійную дзейнасць:

– Вольнаму воля. Кожны разлічвае на свае сілы, і жыццёвыя абставіны бываюць розныя. Можа, нехта марыць падарожнічаць, розныя бываюць сітуацыі. Калі сумленна адпрацаваў, зарабіў пенсію, то маеш права і адпачыць.

### Хто займаецца пенсіянерамі, што працуюць

Распытацца пра праўладкаванне пенсіянераў мы хацелі ва Упраўленнях па працы, занятасці і сацыяльнай абароне. Аказалася, што працуючых пенсіянераў ніхто не вядзе. Аддзел пенсійнага забеспячэння займаецца налічваннем пенсій, аддзелы занятасці – працаўладкаваннем. Пенсіянеры не могуць трапіць у катэгорыю беспрацоўных, таму што яны занятыя – пенсіянеры. Працоўныя адносіны з імі – права наймальніка, патлумачылі ў Валожынскім аддзеле занятасці.

У вілейскім Упраўленні па працы паведамілі, што ў раёне 3355 пенсіянераў, якія працуюць. Сярод іх толькі 93 тых, што засталіся працаваць у сельскай мясцовасці. Пенсіянеры часам прыходзяць шукаць працу ў аддзел занятасці, некаторыя карыстаюцца Банкам вакансій на сайце Мінпрацы ў інтэрнэце.

### Некаторыя наймальнікі хочуць пенсіянераў

Калі некаторыя кіраўнікі наймаюць маладзейшых падначаленых, іншыя шукаюць менавіта тых, хто ўжо не працуе. Звычайна ахвотна бяруць на працу тых, хто ўжо на заслужаным адпачынку, на пазіцыі гандляроў, вартаўнікоў, прыбіральшчыкаў. А многія з задавальненнем пакідаюць дасведчаных спецыялістаў – бухгалтараў, інжынераў.

Недастатковую прадуманасць пенсійных выплат адзначае праваабаронца Беларускага Хельсінскага камітэта **Эдуард Баланчук**:

**– Нядаўна паглядзеў на магілках у Лазаўцы, колькі чалавек не дажыло да пенсіі. Страх, па 10, 15 гадоў. А за ўсіх іх плацілі адлічэнні ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. І хто гэтымі грашыма скарыстаўся?**

Сваякі ж іх не могуць забраць, хаця чалавек 20 гадоў частку заробку аддаваў на будучую пенсію.

### Ці можа наймальнік абіраць маладых

Што тычыцца вакансій, дзе сярод патрабаванняў пішуць узроставыя абмежаванні кандыдата, то тут праваабаронца не бачыць парушэнняў. Калі гэта камерцыйная структура, яе асноўная мэта – зарабіць, дасягнуць патрэбных вынікаў. І кіраўнік арганізацыі прымае на сябе рызыку, ён выплачвае крэдыты, укладае грошы і бачыць перспектыву.

Таму і мае права выбіраць таго спецыяліста які, па яго меркаванні, дазволіць зарабляць найбольш. Асабліва такая практыка зразумелая ў сферы працы з кліентамі. Знешне прыемны камунікабельны чалавек прывядзе больш кліентаў і заробіць для кампаніі большыя грошы.

### Калі пенсіянера звальняць нельга

Некаторыя гарантыі для тых, хто на парозе пенсіі, заканадаўства ўсё ж дае. Гэтае пытанне рэгулюе Працоўны кодэкс і Указ №180 ад 12.04.2000.

Працягваць або заключаць кантракт з добрасумленным работнікам, якому да дасягнення пенсійнага ўзросту застаецца не больш за два гады, трэба не менш, чым да дасягнення пенсіі.

Эдуард Баланчук адзначае, што напружанасць вакол пенсіі нікому не ідзе на карысць:

– Трэба зыходзіць з правоў чалавека і імкнуцца да роўнасці палоў, узростаў.

**Сёння чалавек можа быць выбітным спецыялістам, а заўтра не будзе на што хлеб купіць. Такія ўмовы шкодныя для ўсіх.**

Упэўненасць у заўтрашнім дні робіць чалавека задаволеным жыццём. Такі работнік добра працуе, а гэта найлепшым чынам адбіваецца на стане ўсяго грамадства ў краіне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Кіяну Рыўз


Фота bustle.com.

**Нарадзіўся ў Бейруце ў сям'і амерыканца і англічанкі. Пасля разводу бацькоў ён застаўся жыць разам з маці. Яны часта змянялі месца жыхарства, але ў выніку засталіся ў Таронта.**

Кіяну пачаў здымацца ў кіно ў сярэдзіне 80-х, а цяпер на яго рахунку ўдзел у 85 кінапраектах.

Вядомы сваімі ролямі ў медыяфраншызах «Матрыца» і «Джон Уік», а таксама фільмах «Неверагодныя прыгоды Біла і Тэда», «На грэбні хвалі», «Дракула», «Хуткасць», «Адвакат д'ябла».

### Марыў стаць хакеістам

Выхаваннем Кіяну ў асноўным займаліся бацькі маці і нянькі. На працягу пяці гадоў ён змяніў чатыры школы, сярод якіх – школа мастацтваў у Таронта, адкуль ён быў пазней выключаны «з-за залішняй непакорлівасці», як ён сам тлумачыў пазней.

> Рыўз быў больш паспяховым ў хакеі, чым у акадэмічных дысцыплінах, паколькі працэс адукацыі быў ускладнены для яго дыслексіяй.

Будучы акцёр марыў стаць хакеістам, выступаць за Канаду на Алімпіядзе, аднак траўма паставіла крыж на яго марах.

### Любіць музыку і грае ў гуртах

1990-я прынеслі яму шырокую вядомасць і нават славу, але Кіяну знайшоў яшчэ адзін спосаб для самавыяўлення: музыку.

> Рыўз выступаў у ролі бас-гітарыста і бэк-вакаліста ў поп-рок гурце «Догстар».

Гурт нават быў у турнэ па Паўночнай Амерыцы, не маючы за спіной ні кантракту хоць з якой-небудзь гуказапісвальнай кампаніяй, ні нават альбома. Калі «Догстар» вярнуўся з турнэ, калектыў запісаў дыск з чатырма песнямі. Дыск стаў досыць паспяховым, што дазволіла гурту запісаць першы паўнавартасны альбом «Наш маленькі вяшчун». Неўзабаве гурт распаўся. Пасля распаду Кіяну нейкі час граў у новым калектыве «Бэкі».

### Сыграў беларуса

Напярэдадні выхаду на экраны кінатэатраў трэцяй часткі «Джона Уіка» стала вядома, што галоўны герой, якога грае Кіяну Рыўз, – з Беларусі.

У папярэдніх двух фільмах паходжанне кілера па мянушцы «Баба-яга» хавалася, аднак цяпер стваральнікі баевіка распавялі крыху больш пра героя Кіяну Рыўза.

> Высветлілася, што найнебяспечны наёмнік з'яўляецца сіратой з Беларусі.

Навіна аб тым, што кілер, вакол якога фан-супольнасць стварыла цэлы сусвет, была прынятая пазітыўна і нават стала нагодай для жартаў.



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 1 ИЮЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 0.05** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Принцесса Елена».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«БЕЛЛЬ И СЕБАСТЬЯН».**
**9.05, 18.30** Т/с **«ПЕПЕЛ».**
**10.00** Программа о моде и не только... «BELFASHION.TV».
**11.00** Х/ф **«КАПИТАН АМЕРИКА».**
**13.35** Т/с **«СЕКРЕТНЫЕ МАТЕРИАЛЫ».**
**14.30** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.30** Х/ф **«ШПИОН».**
**19.15** Т/с **«ОБМАН».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«КРАСНЫЙ ДРАКОН».**
**23.15** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

**ВТОРНИК, 2 ИЮЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.05, 0.25** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Принцесса Елена».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«БЕЛЛЬ И СЕБАСТЬЯН-2».**
**9.05** Мультфильмы.
**9.40, 19.15** Т/с **«ПЕПЕЛ».**
**10.30** Документальный «Нанкин. Китай».
**10.50** Х/ф **«КРАСНЫЙ ДРАКОН».**
**13.00, 20.05** Т/с **«ОБМАН».**
**14.30** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.30** Д/с «Детеныши в дикой природе».
**17.00** Х/ф **«ШПИОН».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ИЗГОЙ».**
**23.30** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

**СРЕДА, 3 ИЮЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.05, 0.30** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал «Принцесса Елена».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«БЕЛЛЬ И СЕБАСТЬЯН. ДРУЗЬЯ НАВЕК».**
**9.00** Мультфильмы.
**9.45, 19.15** Т/с **«ПЕПЕЛ».**
**10.30** «Встреча Лувра с запретным городом».
**11.15** Х/ф **«ИЗГОЙ».**
**13.40, 20.05** Т/с **«ОБМАН».**
**14.30** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.05** «Мульт-парад». «Принцесса Елена».
**16.25** Д/с «Детеныши в дикой природе».
**16.55** Х/ф **«ЕГО БАТАЛЬОН».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЛЕННИЦЫ».**
**23.40** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

**ЧЕТВЕРГ, 4 ИЮЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.00, 0.30** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал «Принцесса Елена».
**7.25** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ЗОЛОТОЙ ГЛАЗ».**
**9.40, 19.15** Т/с **«ПЕПЕЛ».**
**10.30** Д/ф.
**11.00** Х/ф **«ПЛЕННИЦЫ».**
**13.40, 20.05** Т/с **«ОБМАН».**
**14.30** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.00** «Мульт-парад». «Принцесса Елена».
**16.30** Х/ф **«КАПИТАН КРЮК».**
**18.55** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«МАРСИАНИН».**
**23.35** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

**ПЯТНИЦА, 5 ИЮЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.05, 21.05, 1.35** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал «Принцесса Елена».
**7.25** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«КАПИТАН КРЮК».**
**9.45** Т/с **«ПЕПЕЛ».**
**10.30** Д/ф «ОХОТА ЗА УРАНОМ. КРАСНОЯРСКОЕ ДЕЛО».
**11.20** Х/ф **«ЛЮДИ ИКС».**
**13.45, 20.00** Т/с **«ОБМАН».**
**14.30** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.00** «Мульт-парад». «Принцесса Елена».
**16.30** «Встреча Лувра с запретным городом».
**17.15** Х/ф **«БЛЕФ».**
**19.10** Т/с **«СЕКРЕТНЫЕ МАТЕРИАЛЫ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.25** «Герои комиксов на экране». «Мстители».
**0.45** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

**СУББОТА, 6 ИЮЛЯ**

**7.00, 14.55, 19.05, 21.05, 0.25** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/ф «ДЕТЕНЫШИ В ДИКОЙ ПРИРОДЕ».
**7.45** Мультфильмы «Три богатыря ход конем».
**9.00** «Утрямдия».
**9.05** Х/ф **«МСТИТЕЛИ».**
**11.30** Х/ф **«В ЛОВУШКЕ ВРЕМЕНИ».**
**13.20** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**15.00** Мультфильмы «Вольт».
**16.35** «Друзья дедушки Марко».
**16.50** Х/ф **«ДЖЕЙМС БОНД. АГЕНТ 007».**
**19.10** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЖЕСТОКИЕ МУЖСКИЕ ИГРЫ». «12-Й ЧЕЛОВЕК».**
**23.30** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 7 ИЮЛЯ**

**7.00, 15.45, 18.25, 21.05** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/ф «ДЕТЕНЫШИ В ДИКОЙ ПРИРОДЕ».
**7.45** Мультфильмы «Иван царевич и серый волк «.
**9.10** «Утрямдия».
**9.15** «Встреча Лувра с запретным городом».
**10.00** «Вечерний квартал-95».
**11.15** Х/ф **«8 НОВЫХ СВИДАНИЙ».**
**12.40** Х/ф **«ВОСЕМЬ ЛУЧШИХ СВИДАНИЙ».**
**14.15** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**15.50** «Смотрим всей семьей». «Девочка ищет отца».
**17.20** «Друзья дедушки Марко».
**17.40** Т/с **«КАСЛ».**
**18.30** Х/ф **«ГОДЗИЛЛА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЕРВЫЙ ЧЕЛОВЕК».**
**23.25** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**
**0.15** Погода+Эрана.

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 1 ИЮЛЯ**

**6.30** Х/ф **«2+1».**
**8.25** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙ ПАПА, НОВЫЙ ГОД».**
**10.00** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**11.25, 12.40, 22.15** Мажорный лад.
**12.00, 19.15** Будьте здоровы.
**12.30, 19.45** Мая Радзіма.
**15.10** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ НА ДАЛЬНИХ БЕРЕГАХ».**
**16.25** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ».**
**17.40** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.15** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ!».**

**ВТОРНИК, 2 ИЮЛЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«РОБИН ГУД».**
**10.50** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**12.10** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ».**
**14.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**15.15** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**17.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**18.50** Мая Радзіма.
**19.15** Свет души.
**20.15** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 3 ИЮЛЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 20.15** Мая Радзіма.
**8.15, 18.55** Родная старонка.
**8.30** Х/ф **«АЛЕША ПОПОВИЧ И ТУГАРИН ЗМЕЙ».**
**9.50** Х/ф **«ДОБРЫНЯ НИКИТИЧ И ЗМЕЙ ГОРЫНЫЧ».**
**11.00** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**12.30** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**14.25** Х/ф **«МЕРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**16.35** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И МОРСКОЙ ЦАРЬ».**
**17.50** Будьте здоровы.
**19.15** Рядом со звездами.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 4 ИЮЛЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 19.15** Мая Радзіма.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 22.15** Мажорный лад.
**8.15** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**10.45** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**12.30** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**14.25** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**15.50** Х/ф **«КЛИК: С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ».**
**17.40** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**19.25** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«ВСЁ ПУТЁМ».**

**ПЯТНИЦА, 5 ИЮЛЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**9.55** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ».**
**10.30** Х/ф **«ДРУГ НЕВЕСТЫ».**
**12.10** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**15.10** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ: ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**17.10** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.20** Рядом со звездами.
**20.20** Родная старонка.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 6 ИЮЛЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.20** Рядом со звездами.
**8.20** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**9.50** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**11.55** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**13.35** Х/ф **«СЕМЬЯ ПО-БЫСТРОМУ».**
**15.30** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**17.05** Х/ф **«2+1».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Мая радзіма.
**20.30** Желаем вам.
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 7 ИЮЛЯ**

**6.30** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**8.10** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**9.45** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО».**
**11.55** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**13.15** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК».**
**14.50** Х/ф **«ИГРА В 4 РУКИ».**
**16.40** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**18.00** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ: НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**19.15** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА».**
**21.50** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**

## Беларусь 1

**6.20** Слово Митрополита Павла на праздник Рождества Иоанна Предтечи.

**6.30** Х/ф **«АНГЕЛ В СЕРДЦЕ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Т/с **«СВАТЫ 6».**

**10.50** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**11.35** «Незабытый подвиг». Хроникально-документальный телефильм АТН.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Маршрут построен.

**13.15** Х/ф **«ИНТРИГАНКИ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Вокруг планеты.

**16.15** «Женщины и спорт». Хроникально-документальный телефильм АТН.

**16.50** Х/ф **«ПОЛЮБИ МЕНЯ ТАКОЙ..».**

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«МОЯ ЛЮБИМАЯ СВЕКРОВЬ. МОСКОВСКИЕ КАНИКУЛЫ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«СНАЙПЕР. ОРУЖИЕ ВОЗМЕЗДИЯ».**

**8.45, 20.00** Телебарометр.

**8.50** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**9.50** «Мир наизнанку. Япония». Трэвел-шоу.

**10.40** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.

**11.40** Х/ф **«ЛАРА КРОФТ. РАСХИТИТЕЛЬНИЦА ГРОБНИЦ «.**

**13.15** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ: ПОСЛЕДНИЙ РЫЦАРЬ».**

**15.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**18.00** «Орел и Решка. Рай и ад «. Трэвел-шоу.

**19.05** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**20.30** «Обмен женами». Реалити-шоу.

**22.00** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**22.05** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].

**23.00** «Сыграй меня, если сможешь».

**23.35** «Когда мы дома». Скетчком Выпуск.

## Беларусь 3

**7.35** Мультфільмы.

**8.00, 14.05, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 14.25, 20.35** Гэты дзень.

**8.25** «Дом, у якім я жыву». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Пірог з трусяцінай.

**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.55** «У небе «Начныя ведзьмы». Мастацкі фільм [СТ].

**13.15** «Майстры і куміры». Акцёр Аляксандр Ждановіч.

**14.30** «Дзесяць фатаграфій». Ангеліна Вовк.

**15.05** «Здаецца кватэра з дзіцем». Мастацкі фільм [СТ].

**16.25** «Шпіён». Мастацкі фільм [СТ].

**19.35** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Тры працэнты рызыкі». Мастацкі фільм [СТ].

**22.10** «Запіскі на палях». Янка Купала: адзіная Паўлінка.

**22.35** «Паўлінка». Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** Мультфильмы «Маша и Медведь».

**7.45** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** Х/ф **«ВЕРНЫЕ ДРУЗЬЯ».**

**11.20** «Муслим Магомаев. «Ты моя мелодия…».

**14.05** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВАЯ РУКА».**

**16.20** Премьера. «Семейные тайны» с Тимуром Еремеевым.

**17.55** Премьера. «День семьи, любви и верности». Праздничный концерт.

**20.00** Контуры.

**21.05** Премьера ОНТ: Гала-концерт «Зроблена ў Беларусі» республиканского праздника «Купалье» («Александрия собирает друзей»).

**23.25** ОНТ представляет: «Спортклуб"(16+).

**23.45** «Что? Где? Когда?» Летняя серия игр. Финал.

## СТВ

**6.05** «Пища богов».

**7.45, 22.05** Документальный спецпроект.

**9.25** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 13.40, 16.40, 20.35** Т/с **«ИСТРЕБИТЕЛИ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**0.25** «Остров ненужных людей».

**1.55** «Соль: Легенды мировой музыки». «Linkin Park – Road to Revolution: Live at Milton Keynes».

## Мир

**6.00, 6.25** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.40** «Беларусь сегодня».

**7.10** «Охота на работу».

**7.45** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.50** «Всемирные игры разума».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ДУРНАЯ КРОВЬ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**3.20** Х/ф **«НЕБО МОЕГО ДЕТСТВА».**

**5.00** Т/с **«ИЗМЕНА».**

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».

**6.20** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50, 23.15** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.20** «Подозреваются все».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.40** «Устами младенца».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.00** «НашПотребНадзор».

**14.05** Х/ф **«БРАТ».**

**16.25** «Следствие вели…».

**19.35** Х/ф **«ОТСТАВНИК-2».**

**21.05** Х/ф **«БРАТ-2».**

**23.50** «Таинственная Россия».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «По секрету всему свету».

**7.50** Х/ф **«БРЕСТСКАЯ КРЕПОСТЬ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».

**14.45, 21.45** Т/с **«ЗОЛОТАЯ КЛЕТКА».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

**1.15** ПРЕМЬЕРА. «Действующие лица с Наилей Аскер-заде».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 17.45** Социальная сеть. **8.45** Идентификация Борна. **11.05** Она. **13.30** Доспехи бога: В поисках сокровищ. **15.35** Поймай толстуху, если сможешь. **20.10** Дракула. **22.35** Превосходство Борна. **0.40** Уна. **2.20** Джеки. **4.20** Бетховен.

### TV1000 ACTION

**7.00** Винчестер. Дом, который построили призраки. **9.00** Транссибирский экспресс. **11.10** Счастливое число Слевина. **13.20, 5.10** Арсенал. **15.10** Опасный квартал. **17.00** Человек-паук. **19.20** Овердрайв. **21.10** Чистильщик. **22.55** Французский транзит. **1.35** Идеальный побег. **3.10** Саботаж.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Про любоff. **8.30** Чёрная молния. **10.35** Убежать, догнать, влюбиться. **12.15** Барханов и его телохранитель. **14.35** Статус: свободен. **16.35** Глухарь в кино. **18.25** Кино про Алексеева. **20.20** Семь ужинов. **22.05** Высоцкий. Спасибо, что живой. **0.40** Белый мавр, или Интимные истории о моих соседях. **2.35** Спасти Пушкина. **4.10** Царь.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.45, 10.45, 11.45** Т/с **«ГРИММ». 12.45** Х/ф **«ДВОЙНОЙ КОПЕЦ». 14.45** Х/ф **«ЗАЛОЖНИЦА 3». 17.00** Х/ф **«ПРИЗРАКИ ПРОШЛОГО». 19.00** Х/ф **«СМЕРТЕЛЬНАЯ ГОНКА». 21.00** Х/ф **«СМЕРТЕЛЬНАЯ ГОНКА: ФРАНКЕНШТЕЙН ЖИВ». 23.00** Х/ф **«ВРЕМЯ ПСОВ». 0.45** Х/ф **«ЗОНА СМЕРТЕЛЬНОЙ ОПАСНОСТИ». 3.00** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ». 4.45, 5.15, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 18.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ЗАВИСТЬ». 10.25, 18.25** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. БЕГЛЯНКА». 11.00, 19.00, 2.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ДЕЛО ПРИНЦИПА». 11.25, 19.25, 2.25** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ВИШНЯ». 12.00, 13.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ТАНЦЫ НА УГЛЯХ». 14.00, 15.00** Т/с **«АЛЕКСАНДРОВСКИЙ САД». 20.00, 21.00** Т/с **«ГРОМОВЫ». 22.00, 23.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА 2». 3.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. СКОЛЬКО СТОИТ ЖЕНА». 3.25** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. КОМБИНАТОР». 4.00, 5.00** Т/с **«ДВОЕ ИЗ ЛАРЦА – 2. В ДЕБРЯХ МЕЛЬПОМЕНЫ». 6.00, 7.00** Т/с **«ИНКВИЗИТОР».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.00** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ». 1.35** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ 2. ПРЕСТАРЕЛЫЕ МСТИТЕЛИ». 3.05** Х/ф **«БЕЛОЕ ВИНО ИЗ БАББУДОЙУ». 4.50** Х/ф **«НЕ УСТУПИТЬ ШТЕЙНАМ». 6.20** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ». 8.10** Х/ф **«ХОТ-ДОГ». 10.15** Х/ф **«УЕДЕМ К ЧЕРТОВОЙ БАБУШКЕ». 12.05** Х/ф **«МОЕ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО». 14.00** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ». 16.00** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 17.55** Х/ф **«РЫЦАРИ КОРОЛЕВСТВА КРУТИЗНЫ». 19.30** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ». 21.15** Х/ф **«ВОЙНА ПОЛОВ». 23.00** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 0.55, 1.50, 9.15, 10.10, 11.05, 12.05** Сводные судьбы. **2.45, 4.00, 5.10, 6.10, 7.10, 8.05** Карточный домик. **13.00, 14.00, 15.05, 16.05, 17.10, 18.10, 19.15, 20.15** Виртуозы. **21.15, 22.10, 23.05** Легенды о Круге.

### ВТВ

**6.00, 6.55, 8.15, 9.05, 10.35, 12.15, 12.55, 13.55, 15.25, 17.25, 19.20, 20.55, 23.00, 23.55** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 3.50** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.10** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.35** Мультфильмы «МАША И МЕДВЕДЬ». **10.00** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **10.40** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **11.20** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ 2». **12.20, 2.30** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00, 3.00** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00** Т/с **«#СЕНЯФЕДЯ». 15.30** Приключения «СМУРФИКИ 2». **17.30** Х/ф **«СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА САНТА-КЛАУСА». 19.25** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ 3». 23.05** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **0.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ» с Михаилом Шацем. **0.55** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Футбол. Чемпионат мира. Женщины. Матч за 3-е место. **8.55** Баскетбол. Чемпионат Европы. Женщины. **10.45** Спорт-микс. **10.55** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. ФК Витебск – Динамо (Брест). **12.55** Баскетбол. Чемпионат Европы. Женщины. 1/2 финала. **14.40** Автоспорт. Дрифтинг. Пари-матч – чемпионат Беларуси. Третий этап. Могилев. **15.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Ислочь (Минский р-н) – Славия (Мозырь). **17.50** Спорт-центр. **20.05** Пит-стоп. **20.35** Итоги недели. **21.20** Баскетбол. Чемпионат Европы. Женщины. Финал. В перерыве Спорт-центр. **23.30** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура.

### EUROSPORT 1

**1.05, 14.15, 22.00** Велоспорт. «Тур де Франс». Обзор дня. **1.30** Конный спорт. Global Champions Tour. Париж. **2.30** Watts. **3.00, 6.00, 9.30** Супербайк. Этап чемпионата мира. Донингтон. Первая гонка. **4.00, 7.30, 11.00, 15.20** Велоспорт. «Тур де Франс». **6.45, 10.15** Автогонки. WTCR. Вила-Реал. Первая гонка. **13.00** Универсиада. Прыжки в воду. Пятый день. **17.45** Велоспорт. «Тур де Франс»-экстра. **18.20** Суперспорт. Этап чемпионата мира. Донингтон. **19.00** Универсиада. Плавание. Четвёртый день. **21.35** Автогонки. WTCR. Вила-Реал. Третья гонка. **23.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Донингтон. Вторая гонка. **23.55** Универсиада. Спортивная гимнастика. Пятый день.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 21.45, 3.20** Гараж для двоих. **6.30, 7.30** Трасса А2. **7.15, 10.40, 13.30, 16.40, 19.00, 23.45, 1.40, 4.05** Итоговые новости. **8.20** Автодрайв 2019. **8.45** Проверка на дороге. **9.00, 9.20, 10.10, 10.25** Работяги. **9.35, 0.15** Сити тестер. **10.55** Советы юриста. **11.35, 1.50** Испытание на прочность. Эксклюзив. **12.05, 12.35, 13.00, 13.45, 14.10** Автовинтаж. **14.40, 15.10, 15.40, 16.10, 16.55, 17.25, 17.55, 18.25, 19.15** Автостоп. **19.45, 22.35, 4.20** Металломщики. **20.35, 23.20, 5.10** Авто Европа. **21.00, 0.00, 5.35** Легенды автопрома. **21.15, 2.50** Народный тест драйв. **22.20, 3.50** Дома на колесах. **0.45** Вторичка. **1.00** Вечер с Пикуленко. **2.20** 9 злобных водителей. **5.50** Обновление.

### EXPLORE

**6.45, 7.40, 8.30, 9.20, 10.10** Речные чудовища. **11.00, 11.40, 12.25, 13.05, 13.50, 14.30, 15.15, 1.30, 2.10, 2.55, 3.35, 4.20** Великий дикий Север. **16.00, 16.45** Деревенский дом. **17.30, 18.15** Австралийские золотоискатели. **19.05, 19.50** Надсмотрщик. **20.40, 21.30** Переделка старья. **22.15, 23.00** Охота на Аляске. **23.45, 0.35** Адские грузовики. **5.10** Нефритовая лихорадка.

### HISTORY

**6.10, 6.35, 5.45** Невероятные изобретения. **7.10, 8.10, 4.00, 4.55** Музейные тайны. **9.05** Наполеон. **12.35, 13.40, 14.40** ДНК мертвых знаменитостей. **15.45, 16.50** Шпионаж за монархами. **17.55, 18.55** В поисках «Восточного экспресса». **18.00, 18.50** Взрывная Земля. **19.55** Смертоносный интеллект. **20.55** От Мировой войны к Холодной войне. **22.00** История без прикрас. **23.00** Загадки Египта. **0.00** Че Гевара: под маской мифа. **1.05** Салемская охота на ведьм. **2.10, 3.05** Загадочные убийства: средневековье.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.55, 7.20, 7.50, 8.15, 8.45** Лучшие друзья собаки. **9.10** Как выбрать щенка. **10.15, 11.10, 12.05, 12.50** Эпический Йеллоустоун. **13.35, 14.30, 15.25** Один дикий день. **16.20, 17.15, 18.10** Львиная страна: ночь и день. **19.05** Жизнь на вулкане. **20.00** Экватор: линия жизни. **21.00** Великие миграции в природе. **21.55** Тьма: мир ночной природы. **22.55** Микромонстры с Дэвидом Аттенборо. **23.50, 0.25, 1.00** Природа в кадре. **1.35, 2.30** Суперветеринар. **3.25, 4.15, 5.05** Тайная жизнь зоопарка.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 10.40, 11.05, 11.30, 11.50, 5.45** Научные глупости. **6.25** Научные глупости: Собаки и Друзья. **6.50, 4.10** Инженерные идеи. **7.35** Инстинкт выживания, Китай. **8.20, 12.15** Авто – SOS. **9.10** Национальные праздники. **9.55** Трудное золото Аляски. **13.00, 13.50** Дикий тунец. **14.35, 15.20, 16.05, 16.50, 17.30, 18.15, 21.20, 22.50, 23.35, 0.20** Космос: Пространство и время. **19.00, 22.05, 5.00** Осушить океан: глубокое погружение. **19.45** Аполлон: Лунная миссия. **1.05, 1.55** Инстинкт выживания. **2.40, 3.25** Эвакуация Земли.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.00** Рождение клинка. **6.25, 23.30** Рыбалка 360. **6.55, 12.10, 18.25, 0.25** Смертельный улов. **7.45, 1.15** Две на одного. Оружие. **8.00, 20.00** Поплавочный практикум. **8.35, 20.30** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **9.05, 15.50, 21.00, 3.15** Рыбалка сегодня XL. **9.35** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **10.05, 21.55** Карпфишинг. **10.40, 22.25** Рыболовы. **11.15, 17.55, 1.25, 5.05** Прибалтийский лосось. **11.40, 19.30, 1.55, 5.35** Подводная жизнь дельты Волги. **13.00, 19.10** Природа мужской кухни с Сержем Марковичем. **13.15** Какая дичь! **13.35** Камера, мотор... рыба! **14.05** Секреты «трудных» водоемов. **14.30** Привет, Малек! **14.50, 2.20** Тропа рыбака. **15.20** На рыбалку с охотой. **16.20, 3.40** Горная охота в Испании. **16.55, 4.10** Стрелковый спорт. **17.10, 4.20** Охота: собачья работа. **17.40, 4.50** Кодекс охотника. **21.30** Горная охота в Болгарии. **23.55** Рыбалка в России. **2.45** Поймай и сними.

### УСАДЬБА

**6.00, 13.55, 17.55, 22.00, 2.05, 9.50** Дома на деревьях. **6.50, 10.35, 22.40** Детская мастерская. **7.05, 10.55, 14.55, 18.55, 23.00, 3.00** Как поживаете? **7.35, 11.20, 15.25, 19.25, 23.30, 3.30** У мангала. **8.05, 11.50, 15.50, 23.55, 3.55** Дачный эксклюзив. **8.35, 12.20, 16.20, 20.25, 0.25, 4.20** Сельсовет. **8.50, 12.35, 16.40, 20.40, 0.40, 4.35** Дачная энциклопедия. **9.25, 13.10, 17.25, 21.30, 1.10, 5.15** Лавки чудес. **13.40, 1.55** Чай вдвоем. **14.35, 18.40, 2.50** Квас. **17.10, 21.10, 5.05** Флористика. **19.55** Хозяин. **1.40, 5.45** Травовед.

# Так мог пісаць толькі мастак, які пераджыў вайну

## Юрась Церабун – пра мастака, педагога, франтавіка і сябра Мікалая Шчалканогава

МАЛАДЗЕЧНА

**З-за сваёй сціпласці ветэраны Другой сусветнай ніколі не пачыналі першымі размову пра вайну. Запытаеш – адкажуць, ніколі не выхваляючыся сваім геройствам. Часцей за ўсё, франтавыя гады яны згадвалі толькі ў сваім асяроддзі ветэранаў.**


Фота berezinskoe.by.

Торфабрыкетны завод у Беразінскім, дзе працаваў Мікалай Шчалканогаў.

Казалі: «Мы не думалі пра нейкую славу. Проста кожны з нас выконваў свой абавязак перад Радзімай. Каб такі лёс выпаў вам, ваявалі б і вы.»

Вось такім сціплым і мужным чалавекам быў мой герой-франтавік, мастак і педагог **Мікалай Якаўлевіч Шчалканогаў** з пасёлка Беразінскае.

### Быў камандзірам роты кулямётчыкаў

Нарадзіўся ён 25 красавіка 1915 года ў горадзе Кунгур Пермскай вобласці. Маці і бацька працавалі на чыгунцы. Бацька – машыністам паравоза, маці – рабочай дэпо.

У 1934 годзе па камсамольскай пуцёўцы Мікалая накіравалі будаваць сударамонтны завод у Мурманску. Да гэтага хлопец вучыўся ў Пермскім авіяцыйным тэхнікуме.

З Мурманска прызвалі ў Чырвоную Армію. Яшчэ маладым сяржантам давялося ўдзельнічаць у савецка-фінскай вайне. Пасля ў 1942 Мікалая Шчалканогава накіравалі ў трэцяе Ленінградскае кулямётна-стралковае вучылішча імя Кірава. Вучыўся на паскораным курсе, бо фронту тэрмінова былі патрэбныя камандзіры афіцэрскага складу.

Камандзір роты кулямётчыкаў, лейтэнант Шчалканогаў стаў змагацца з ворагам на другім Украінскім фронце. З баямі вызваляў гарады Украіны, а таксама Варшаву і Прагу. Меў цяжкое раненне і кантузію. Пасля шпіталя вярнуўся на фронт. Адзначаны шасцю баявымі ўзнагародамі. Сярод іх два ордэны Чырвонай Зоркі і медаль «За адвагу».

### Дзіву даваўся, каб у пасёлку так малявалі

У 1947 годзе ў званні старшага лейтэнанта звольнены ў запас. Ад гэтага часу і застаўся ў Беларусі, якую палюбіў і лічыў сваёй другой радзімай.

Жонка Мікалая Якаўлевіча **Марыя Сафонаўна** была з Юрацішак. Падчас вайны яе вывезлі на прымусовыя работы ў Польшчу на мяжы з Германіяй. Пасля вайны яна нейкі час працавала там у шпіталі. А потым вярнулася ў родныя Юрацішкі. Тут у Шчалканогавых нарадзілася дачка.

Спачатку Мікалай Якаўлевіч працаваў у Маладзечанскім абласным доме народнай творчасці, потым на торфабрыкетным заводзе ў Беразінскім мастком-афарміцелем. У Беразінскае ён пераехаў з сям'ёй, атрымаўшы тут невялікую кватэру.

Неяк, будучы па справах у дзіцячай музычнай школе ў Беразінскім, я разглядаў творы, што віселі на калідоры. Адразу было відаць, што маляваў іх таленавіты чалавек.

Дырэктар школы **Міхаіл Бохан** прапанаваў мне пазнаёміцца з аўтарам. Пайшлі ў студыю выяўленчага мастацтва, што была побач.

Перада мной стаяў невысокі ўжо немалады чалавек з прыгожай сівізной на скронях. На пінжаку былі прымацаваныя ордэнскія калодкі. Падаўшы руку, ён ветліва прадставіўся. Па ўсім адчувалася інтэлегентнасць і высокая культура.

– Прыязджайце. Заўсёды буду рады бачыць, – запрасіў новы знаёмы, працягнуўшы паперку з нумарам свайго тэлефона. – Толькі папярэдне тэлефануйце. А то можаце мяне ні дома, ні ў майстэрні не застаць. Штодня хаджу на эцюды.

З таго дня і пачалося наша сяброўства, якое доўжылася амаль два дзесяцігоддзі.

Мікалай Якаўлевіч гадзінамі расказваў пра сваіх вучняў. Дэманстраваў іх працы па малюнку і жывапісе.

Калі я заўважаў па-майстэрску выкананы графічны малюнак, вельмі цешыўся. Дзіву даваўся, каб у пасёлку гэтак малявалі. Ёсць малюнак – ёсць школа. А яна ўласцівая толькі таленавітаму педагогу.

Нягледзячы на хваробу, Мікалай Шчалканогаў скончыў Маскоўскі завочны народны універсітэт імя Крупскай па спецыяльнасці «Станковы жывапіс і графіка». Яго творы экспанавалі ў Беларусі, Маскве, ГДР, Польшчы, Венгрыі, Чэхаславакіі.

У яго архіве было каля 50 дыпломаў і ганаровых грамат. У 1985 годзе мастака ўзнагародзілі Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

### На пенсіі вучыў дзяцей маляваць

У 1975 годзе, калі выйшаў на пенсію, стварыў Беразінскую дзіцячую студыю выяўленчага мастацтва. У гэтай студыі мастак-педагог, франтавік працаваў да апошніх дзён жыцця. У 1986 годзе Беразінскай студыі прысвоілі званне народнай.

Мікалай Шчалканогаў быў вядомым самадзейным мастаком Міншчыны. Хаця самадзейным яго назваць цяжка. Чысціня пісьма, франтавая смеласць, уласцівае толькі яму спалучэнне колераў вылучала яго эцюды і жывапісныя творы на любой выставе.

Яго эцюдамі захапляўся мастак **Юры Жызнеўскі** і мой брат, скульптар **Уладзімір Церабун.**

Эцюды Мікалай Якаўлевіч пісаў на ўсім, што траплялася пад рукі, папярэдне загрунтаваўшы. Былі і кардон, і папера, і вокладкі ад папак, і нават звычайная цырата для стала.

Там няма часу нешта выбіраць. Кожную хвіліну мяняецца пейзаж. Эцюд на пленэры – гэта парыў пачуццяў.

Мне давялося бачыць вялізныя жывапісныя пейзажы Шчалканогава і тэматычны твор «Вызваленне Маладзечна». На ім шмат фігур, тэхнікі, зброі, трывожнае неба, знявечаная зямля і рэшткі архітэктуры. Такі твор мог напісаць толькі мастак, які сам перажыў вайну.


Франтавое фота з архіва Юрася ЦЕРАБУНА.

Мікалай Шчалканогаў.

### Апошняя сустрэча і бэз, які не пахне фарбамі

Наша апошняя сустрэча была 25 гадоў таму. Вясна. У майстэрню зайшоў хлопчык з эцюднікам. Падышоў да настаўніка і нешта прашаптаў яму на вуха.

– Ну, чаго саромешся? Адкрывай свой эцюднік.

Хлопчык паставіў яго на ножкі і падняў накрыўку. Там быў толькі што намаляваны прыгожы куст бэзу. Ад яго адчуваўся пах вясны. Мікалай Якаўлевіч абняў вучня, а я пацiснуў яго таленавітую руку.

14 чэрвеня 1994 года мастака не стала. Мы з сябрам усё ж паспелі прывезці творцу нашы развітальныя кветкі. Пахавалі мастака ў вёсцы Гарадзілава, далёка ад яго роднага горада Кунгур.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**Маладзечна.**

● КАЛЯНДАР

**28 ЧЭРВЕНЯ**

**1982.** У ваколіцах вёскі Вербавічы Нараўлянскага раёна пацярпеў катастрофу пасажырскі самалёт «Аэрафлота» Як-40, які ляцеў з Ленінграда ў Кіеў. Загінула 132 чалавекі. Найбуйнейшая авіяцыйная катастрофа на тэрыторыі Беларусі.

**29 ЧЭРВЕНЯ**

**1940.** Дэпартацыя з Заходняй Беларусі асоб, што ўцяклі з нямецкай акупацыйнай зоны. 23 тысячы чалавек выпраўленыя ў Сібір і Казахстан.

**30 ЧЭРВЕНЯ**

**1984.** Пачаўся рэгулярны рух цягнікоў на першай лініі Мінскага метрапалітэну.

**1 ЛІПЕНЯ**

**1938.** У Баранавічах пачала вяшчанне радыёстанцыя Польскага Радыё. Сігнал прымаўся на тэрыторыі ў радыусе 120 км. на хвалях 577 м. У пачатку Другой сусветнай вайны радыёстанцыю бамбардзіравалі нямецкія самалёты. Пасля вайны савецкія ўлады перадалі радыёстанцыю Польшчы.

**2016.** Дэнамінацыя беларускай нацыянальнай грашовай адзінкі. Суадносіны абмену 1 да 10 тысяч.

**2 ЛІПЕНЯ**

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Вілейка, Краснае, Курапец.

**2012.** Памёр беларускі грамадска-палітычны дзеяч **Сяржук Вітушка**. Кіраўнік мінскага таварыства «Талака», гісторык і педагог, аўтар казак для дарослых і дзяцей. Нарадзіўся 10 красавіка 1965 года ў Чысці на Маладзечаншчыне, пахаваны ў вёсцы Рагава паблізу Радашкавічаў.



**3 ЛІПЕНЯ**

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Мінск, Радашкавічы, Ільля, Даўгінава, Астравец.

**4 ЛІПЕНЯ**

**1889.** Нарадзілася **Ганна Рагель**, в. Белыя Маладзечанскага раёна. Памерла ў Маладзечне ў 2010 ва ўзросце 121 года. Была найстарэйшай жыхаркай Беларусі.

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Мядзел, Крывічы, Ракаў.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Анхела

**Мяне накрыла шчасце, калі прапанавалі прысвяціць тэкст Янку Купалу. Сур'ёзна кажу. У той час, як іншыя беларускія выданні падсвядома ставяцца да беларускай літаратуры як да «меншай» творчасці, і лічаць замежных аўтараў прыкладамі ўніверсальнага таленту (прабачце, што я так, але мне, як беларускаму філолагу, гэта баліць), то «Рэгіянальная газета» ацаніла значнасць Івана Луцэвіча і яго спадчыны (выбачайце за тупенькі жарт) для беларускай культуры.**

# Купала жывы!


Фота kupala-museum.by.

Помнік Янку Купалу ў Вязынцы.


Фота wikipedia.org

Дом у Вязынцы, дзе нарадзіўся Янка Купала.

**Як чалавек, які выбраў беларускую літаратуру як прафесійны шлях, не магу не пагадзіцца, наколькі варта зрабіць Янку Купалу падарунак на дзень нараджэння, хай і ў сціплай форме кароткай калонкі.**

Трэба сказаць, што мае адносіны з творамі Янкі Купалы, як і з самім аўтарам, склаліся даволі спецыфічным спосабам. Я пачала вывучаць беларускую мову крыху больш за шэсць гадоў таму, у пачатку 2013 года, на аснове абмежаванай колькасці матэрыялаў, сярод якіх быў аўдыякурс на англійскай мове. Там вучылі розным выразам і словам, а таксама расказвалі цікавосткі пра Беларусь. Не пытайце, што гэта за курс: спампавала яго з люстэрка тады і ніколі больш не здолела яго знайсці, на вялікі жаль. Гэта сёння не галоўнае: галоўнае тое, што настаўніца прачытала ўслых верш Янкі Купалы (здаецца, адзін з санетаў) па-беларуску і па-англійску. Санет мяне ўразіў, і, хаця на тым этапе ўмела чытаць па-беларуску толькі механічна, я адшукала іншыя вершы Янкі Купалы, пачала чытаць іх уголас дзеля моўнай практыкі і эстэтычнай асалоды. Хутка я знайшла і Якуба Коласа, і Максіма Багдановіча, і шэраг іншых класічных і сучасных пісьменнікаў.

**Але Янка Купала вельмі дапамагаў мне ў першых беларускамоўных кроках.**

Не дзіва, што я выбрала менавіта яго, Янку Купалу, як тэму аднаго з сачыненняў ва ўніверсітэце... Не памятаю, ці казала, што ў мяне дыплом славянскага філолага (прынамсі, першапачаткова), і я насамрэч хадзіла на заняткі рускай мовы, хай і на катастрафічным узроўні. У той час я была на трэцім курсе, і наша выкладчыца... Як вам сказаць, была вельмі спецыфічнай: дасюль лічыла СССР адзінай сучаснай краінай, выдавала нам савецкія стэрэатыпы направа і налева. Дзякуючы гэтаму, затое, мы атрымалі шанец на пэўную разнастайнасць у той раз: напішыце, сказала яна нам, сачыненне пра вядомага чалавека, які жыў у СССР. Чалавек можа быць любой нацыянальнасці, хоць армянін, хоць узбек, абы быў значным у якой-небудзь галіне. Цяпер, з больш цынічнай перспектывы, думаю пра магчымасці й не надумаюся. Выраз «значны ў якой-небудзь галіне» адкрывае цэлы сусвет крэатыўнаму літаратару. Хоць пра Чыкаціла і яго значнасць сярод серыйных забойцаў напішы. Але мне вельмі хацелася пісаць пра беларускую літаратуру, як заўжды (калі-небудзь я напішу тэкст пра тую выкладчыцу, і як яна мяне адштурхнула ад суседняй культуры канчаткова, абяцаю), і я выбрала Янку Купалу.

**А прафесарка ўсё адно дачапілася. Па-першае: «Чаго ты не выбірала рускага пісьменніка? Іх столькі цудоўных! Вось бы пра Горкага напісала. Я стараюся, а ты...»**

Я дасканала ведала, што трэба будзе асцярожнічаць, бо наша ўлюбёная прафесарка моцна ненавідзела ўкраінцаў і беларусаў, так што я дбала пра граматыку, як ніколі. Тры рускія сябры правяралі гэтую маю пісаніну. Двое з іх былі філолагамі.

А па-другое, яшчэ лепей: яна паклікала мяне на кансультацыю, каб сказаць, што пасля «ж» пішацца «и», а не «ы». Прэтэнзія была да таго, што я не пераклала на рускую мову назву верша «Мужык». Размова была прыкладна такой:

Прафесарка: Пасля «ч, ж, щ» што пішацца?

Я: Залежыць ад таго, на якой мове пішацца.

П: А па-руску як пішацца?

Я: «И», безумоўна.

П: А гэта што?

Я: «Ы». Бо назва твора на мове арыгінала. Гэта значыць, на беларускай.

П: Вось праз тваю віну тваё аднагрупнікі не навучацца пісаць па-нармальнаму! Чаму ты не пераклала назву для сваіх рускамоўных чытачоў?

**Я: А таму, што я не лічу сваіх рускамоўных чытачоў ідыётамі. Як вы думаеце, як перакладаецца слова «мужык»?**

Добра, я згодная, я не трымала максімальнай ветлівасці ў гэтай размове, але вы проста не ведаеце гэту прафесарку і не чулі, як яна расказвае пра адрозных людзей, народы і культуры. Асабліва пра вас, дарагія беларусы. Калі каротка, я тады вырашыла ніколі не даць Янку Купалу ў крыўду. І беларускую мову, натуральна. Я гатовая была абараняць іх перад любымі выкладчыкамі, тролямі на Фэйсбуку, чыноўнікамі, у якіх «не знойдуцца формы на першай дзяржаўнай»... У любых абставінах і паўсюль. Здолела атрымаць дазвол напісаць сваю дыпломную пра гісторыю беларускай літаратуры, паступіла на магістратуру ў той жа спецыяльнасці, а цяпер чакаю, калі анансуюць дату абароны кандыдацкай дысертацыі – па той жа тэматыцы.

**Купала заўжды быў для мяне прыкладам сілы і цярпення: эпоха, у якую яму давялося жыць, не была спрыяльнай для беларускай творчасці, мякка кажучы.**

Але, як у паэме «Курган», ён заўжды знаходзіў спосаб працягваць пісаць, пераадольваць праблемы і стаць сімвалам і героем для тых, хто любіць родную мову.

Каля месяца таму я скончыла пераклад санетаў Янкі Купалы на іспанскую мову. Гэта другі пераклад у гісторыі, пасля іспанамоўнай версіі Карласа Шэрмана. Да таго ж санеты асабіста для мяне з'яўляюцца другім вялікім перакладніцкім праектам пасля выбраных твораў Максіма Багдановіча. Яны выйдуць увосень, у вялікім, шматмоўным выданні, якія цяпер ствараюць у Дзяржаўным музеі Янкі Купалы. Не скажу, што гэта прыгожа завяршае нейкі гештальт, бо мая праца далёка не закончаная, але гэта невымоўна важная для мяне кніга: яна дапаможа мне, як і гэтая мая сённяшняя калонка, аддаць Янку Купалу хоць крышачку таго, што ён даў мне. Вярнуць гэтую моц, дзякуючы якой я стала той жанчынай, кім ёсць цяпер.

Перачытваю цяпер свае словы і разумею, што яны атрымаліся, можа быць, злёгку пафаснымі. Змяняць іх не буду, бо яны шчырыя і праўдзівыя, і нават такія строгія філолагі, як я, маюць часам пачуцці.

**Папрашу вас толькі адно: бярыце любы тэкст Янкі Купалы і перачытайце яго сёння.**

Можна ў самоце, можна з сябрамі якуюнебудзь тэатральную сцэну граць. Янка Купала сам дакажа, чаму варта памятаць яго хоць у дзень яго нараджэння.


Анхела
ЭСПІНОСА РУІС
г. Малага (Іспанія)
паэтка,
магістр філалогіі
angeespi@ucm.es







Фота Вольгі ГРЫЦУН.

На цырымоніі адкрыцця помніка Янку Купалу ў Кітаі.

# У аўторак помнік Янку Купалу паставілі ў Кітаі

## А Маладзечна чакае помнік песняру амаль 10 год

**Помнік беларускаму песняру ўстанавілі 25 чэрвеня ў Сіаньскім універсітэце замежных моў.**

Студэнты ўніверсітэта, што абралі беларускую мову як спецыяльнасць, падрыхтавалі творчую праграму. У тым ліку дэкламавалі вершы Янкі Купалы на беларускай і кітайскай мовах.

### Маладзечанскія мары

Між тым маладзечанцы чакаюць помніка амаль дзесяць год.

Планы па ўсталяванні помніка класіку агучылі ў межах падрыхтоўкі да рэспубліканскіх «Дажынак», у 2010 годзе. На пашыранай нарадзе аблвыканкама тады ўпершыню прапанавалі ўсталяваць помнік у цэнтры горада. Меркавалася, што яго паставяць у скверы, дзе цяпер размешчаны фантан «Папараць-кветка». Скульптар **Валяр'ян Янушкевіч** стварыў макет помніка.

Не ўсе мары і планы па паляпшэнні горада да «Дажынак» увасобіліся. Адным з такіх пунктаў стаў і помнік Янку Купалу. Мы нагадвалі пра гэта ў публікацыі ў 2012 годзе, дзе падсумоўвалі, што з важных дажыначных планаў не стала рэальнасцю. Сярод іх – помнік песняру.

З таго часу пытанне пра помнік песняру стала фірменным ад «Рэгіянальнай газеты». І ў адказ мы атрымлівалі нават канкрэтныя па тэрмінах абяцанні.

У 2012 Маладзечна сустракала ўжо абласныя «Дажынкі». Тады на пасадзе старшыні Мінскага аблвыканкама стаяў **Барыс Батура.** Журналісты «Рэгіянальнай газеты» задалі яму пытанне, калі ж помнік з'явіцца. Чыноўнік адказаў, што праз некалькі месяцаў, у снежні.

### Калі сказалі, што няма грошай. І колькі трэба

«Рэгіянальная газета» вярнулася да пытання ў 2013 годзе. Тагачасны кіраўнік аддзела культуры райвыканкама **Аляксандр Рамановіч** так патлумачыў сітуацыю:

«Праект помніка скульптара Валяр'яна Янушкевіча гатовы, прайшоў экспертызу. Але на яго рэалізацыю цяпер у бюджэце сродкаў няма. А неабходна адзін мільярд дзвесце тысяч рублёў (заўвага аўтара – недэнамінаваных)».

Мы спыталіся, а што, калі прапанаваць жыхарам сабраць грошы на гэты праект. На гэта быў такі адказ:

«На помнік Агінскаму, які цяпер стаіць каля музкаледжа, сродкі збіралі сярод гараджан, і гэту ідэю падтрымалі. А вось на Новы год прапанавалі маладзечанцам укласці грошы ў феерверкі – і атрымалі хвалю ўшчуванняў. Хаця, на мой погляд, гэта нармальная практыка, калі людзі плацяць за сваё задавальненне, за феерверкі».

Датычна помніка Купалу, то не ведаю, ці спрацуе такі варыянт. Вядома, гэта прыкра, што прайшоў і юбілей, 130 год песняру, а помнік не з'явіўся тут, на яго радзіме».

### «Давайце пачакаем»

У 2014 годзе пытанне пра помнік мы задалі на Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі тагачаснаму міністру культуры **Барысу Святлову.** Вось яго адказ:

«У нас вядзецца работа ў гэтым накірунку. Як заўсёды, пытанне ў грашовых сродках. Таму давайце трохі пачакаем.

У нас ёсць шмат яшчэ нявыкананых абавязкаў таго ж Міністэрства культуры не толькі перад Янкам Купалам, але, можа, нават у першую чаргу, перад Максімам Танкам, стагоддзе якога мы адзначаем сёлета.

Шмат іншых нашых выдатных песняроў. Будзе і Янку Купалу ў Маладзечне помнік таксама».

У 2018 годзе мы сабралі падборку вострых, на нашу думку, праблем Маладзечна. Якія давядзецца вырашаць новаму старшыні райвыканкама **Юрыю Горлаву.** І адна з іх – што абяцаны помнік так і не з'явіўся.

### Чаму гэты помнік такі важны

Ідзе 2019 год. Мінулі «Дажынкі», 130-гадовы юбілей песняра. А помнік яму ў цэнтры Маладзечна так і не паставілі.

Безумоўна, у раёне і краіне шмат іншых праблем, чаму ж мы так заастраем увагу менавіта на гэтай? Ёсць некалькі прычын.

Янка Купала нарадзіўся ў Вязынцы. Ён тут рос, працаваў, ствараў. Калі гэта паэт нацыянальнага маштаба, дзіўна, чаму яго не ўшаноўваюць у раёне, які стаў яму калыскай. Пясняр абраў псеўданім у гонар народнага свята Купалля, на якое нарадзіўся. У дзень, калі беларусы шукаюць Папараць-кветку. Менавіта яе абралі ў выяву герба Маладзечна ў 80-ыя гады як сімвал пошуку шчасця, тым больш што папараць звязаная з народным песняром.

Для беларусаў выдзелілі аж тры гады ў гонар малой радзімы, але не адшукалі магчымасць адзначыць малую радзіму песняра помнікам. Для чаго тады гэтыя пафасныя назвы – каб у паперах да канцэртаў народных калектываў можна было разумна прыпісаць «у межах года малой радзімы»?

Другая прычына ў тым, што гэта быў не проста адзін з варыянтаў. Помнік абяцалі чыноўнікі рознага ўзроўню, але абяцанні не стрымалі.

Самае ж важнае палягае ў тым, што маладзечанцы не ідуць наперад. У 90-ыя Маладзечна стаў Горадам Сонца. Ён застаецца адзіным горадам краіны, дзе правялі дэкамунізацыю назваў вуліц. Мы маем Вялікі Гасцінец, а не праспект Леніна, вуліцу Ігната Буйніцкага, а не Энгельса.



Фота з архіва «РГ».

Такі помнік Янку Купалу мог з'явіцца ў Маладзечне. Ці яшчэ з'явіцца?..

Але гэты рух да нацыяналізацыі і беларушчыны стаў на ручнік. Мы не дабіліся, каб на кінатэатр вярнулі беларускамоўную шыльду. Не вярнулі «Радзіму», у горадзе ніводнага беларускамоўнага класа, а на Цэнтральнай плошчы помнік Леніну, а не Янку Купалу.

Гэта не проста выява, гэта сімвал таго, што мы ўсё яшчэ беларусы. І здаецца, што адзіныя ў гэтым горадзе, хто яшчэ помніць пра абяцаны помнік Янку Купалу – «Рэгіянальная газета», якая нейкім цудам застаецца беларускамоўнай.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Рыхтуемся здаваць дакументы персаніфікаванага ўліку за другі квартал

**Індывідуальныя звесткі па форме ПУ-3 трэба падаваць штоквартальна. Пры гэтым форму ПУ-3 запаўняюць з нарастаючым вынікам ад пачатку справаздачнага года. І улічваюць змяненні раней прадстаўленых звестак справаздачнага перыяду.**

Для карэкціроўкі дадзеных за папярэднія гады запаўняюцца індывідуальныя звесткі па форме ПУ-3 (тып формы – «зыходная») і прадстаўляюцца плацельшчыкам страхавых унёскаў у орган Фонду сацабароны па месцы пастаноўкі на ўлік.

Працадаўцы павінны прадставіць формы ПУ-3 за другі квартал не пазней за 31 ліпеня 2019 года, за трэці квартал – не пазней за 31 кастрычніка 2019 года, за чацвёрты – не пазней за 31 студзеня 2020 года.

Са справаздачнага перыяду 2018 года на асоб, якія працуюць па грамадзянска-прававых дагаворах, формы ПУ-3 падаюць незалежна ад налічэння па ім грошай.

Калі прадстаўленыя формы ПУ-3 адхілілі з-за памылак, пачкі з памылкамі вяртаюць плацельшчыку страхавых унёскаў для выпраўлення і прадстаўлення не пазней устаноўленага для тэрміну здачы формы ПУ-3.

Такім чынам, адхіленыя формы ПУ-3 за II квартал 2019 года неабходна выправіць і падаць не пазней за 31 ліпеня.

Сёлета ад першага студзеня ў форму ПУ-3 дадаткова ўвялі поле, у якім адлюстроўваецца код прычыны налічэння выплат (даходу), на якія налічваюцца страхавыя ўнёскі, ніжэй за ўзровень месячнага мінімальнага заробку з улікам індэксацыі.

Пачкі дакументаў персаніфікаванага ўліку з формамі ПУ-3 за справаздачны перыяд перадаюць у поўным аб'ёме і ва ўстаноўленыя заканадаўствам тэрміны. Але не раней здачы формы ведамаснай справаздачнасці аб сродках дзяржбюджэту пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь і пасля выплаты страхавых унёскаў.

Памяняўся і парадак прадстаўлення формы ПУ-2. Форма ПУ-2 ставіцца да дакументаў персаніфікаванага ўліку і змяшчае звесткі аб прыёме і звальненні работнікаў. Ад пачатку гэтага года адмяняецца тып формы ПУ-2 «карэктуючыя». Калі патрэбная карэкціроўка, прадстаўленай раней інфармацыі ў форме ПУ-2 запаўняецца тып формы «зыходная».

**Пачынаючы ад справаздачнага перыяду – першы квартал 2019 года – змянілі тэрмін прадстаўлення формы ПУ-2 (тып формы – «зыходная»).**

Яе неабходна будзе падаваць адзін раз на квартал не пазней за дзясятае чысло месяца, наступнага за справаздачным кварталам. за другі квартал 2019 года – ад першага па дзясятае ліпеня; за трэці квартал 2019 года – ад першага па дзясятае кастрычніка; за чацвёрты квартал 2019 года – ад першага студзеня па дзясятае студзеня 2020.

Калі плацельшчык не падасць або несвоечасова прадстасць дакументы персаніфікаванага ўліку, яго прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці ў адпаведнасці з артыкулам 23.16 КаАП.

**Даведка «РГ»**
Артыкул 23.16 КаАП. Непрадастаўленне дакументаў, справаздач і іншых матэрыялаў. Непрадастаўленне службовай асобай або індывідуальным прадпрымальнікам ва ўстаноўленыя тэрміны дакументаў, справаздач і іншых матэрыялаў, якія трэба прадаставіць у адпаведнасці з законамі Рэспублікі Беларусь або прадстаўленне непраўдзівых звестак у іх, караюцца штрафам ад чатырох да дваццаці базавых велічынь: ад 120 да 3060 рублёў.

**Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацабароны.**




# Калі лісток непрацаздольнасці не аплацяць

Ліст непрацаздольнасці аплачваюць не заўсёды.

**У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку забеспячэння дапамогамі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах, зацверджаным Пастановай Савета Міністраў ад 28 чэрвеня 2013 года № 569 (далей – Палажэнне № 569) дапамогі прызначаюць на падставе лістка непрацаздольнасці.**

Ён павінен быць выдадзены і афармлены ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

Разгледзем выпадкі, калі лісток непрацаздольнасці, выдадзены па ўсіх правілах, вызваляе ад працы, але не дае права на выплату дапамогі.

Згодна з Законам ад 31 студзеня 1995 года № 3563-XII «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання» Палажэннем № 569 уведзеныя ўмовы прызначэння выплат па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню. Сярод умоў – патрабаванні аб мінімальным перыядзе выплаты унёскаў на дзяржаўнае сацстрахаванне на адпаведны страхавы выпадак да яго наступлення.

Так, права на дапамогу маюць асобы, якія працуюць або займаюцца іншай дзейнасцю, на якіх распаўсюджваецца дзяржаўнае сацстрахаванне. І за іх, а таксама імі самімі ў прадугледжаных заканадаўствам аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні выпадках выплачваюцца абавязковыя страхавыя ўнёскі ў бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва (далей – бюджэт фонду) на сацыяльнае страхаванне.

Ці мае чалавек права на дапамогу, разглядаюць у пачатку непрацаздольнасці. Выкананне ўмоў – да яе надыходу. Яно не залежаць ад даты звароту.

Гэта азначае, што для прынятых на працу ўпершыню права на дапамогу ўзнікае толькі пасля таго, як наймальнік ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку зробіць выплату на карысць работніка, на якую налічваюцца і ўтрымліваюцца абавязковыя ўнёскі на сацстрахаванне, і выплаціць іх у бюджэт фонду.

Для зноў прынятых на працу людзей, якія не атрымалі ў новага наймальніка яшчэ ні адной выплаты, на якую налічваюцца і ўтрымліваюцца абавязковыя ўзносы на сацыяльнае страхаванне, права на дапамогу захоўваецца. Але толькі тады, калі перапынак у выплаце унёскаў паміж месяцам, за які апошні раз выплачаны ўнёскі за работніка, у тым ліку і іншым наймальнікам, і месяцам, у якім наступіў выпадак непрацаздольнасці, склаў не больш за шэсць месяцаў.

Паколькі па месцы працы па сумяшчальніцтве выдаецца дадатковы лісток непрацаздольнасці і прызначаецца дадатковая дапамога з улікам выканання ўмоў мінімальнага памеру, то для працуючых па сумяшчальніцтве патрабуецца выкананне ўмоў па выплаце ўнёскаў толькі па дадзеным месцы працы. Выплата ўнёскаў іншымі наймальнікамі не ўлічваецца.

Таксама дапамогі па часовай непрацаздольнасці не прызначаюцца за перыяд водпуску без захавання заработнай платы, за перыяд, за які налічвалася заработная плата, а таксама захоўваўся сярэдні заробак поўнасцю або часткова ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Не назначаюць дапамогу за першыя шэсць каляндарных дзён па часовай непрацаздольнасці ў выпадках захворвання або траўмы, калі яна здарылася з-за спажывання алкаголю, наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў. А за наступныя дні аплачваецца толькі палова дапамогі.

Таксама толькі палову дапамогі па часовай непрацаздольнасці выплачваюць, калі яна здарылася падчас прагулу без уважлівай прычыны.

Калі ў перыяд непрацаздольнасці ўстановяць парушэнне рэжыму, прадпісанага доктарам, то ад дня парушэння рэжыму дапамогу таксама зменшаць напалову.

Ёсць дадатковыя нюансы ў прызначэнні дапамог па доглядзе за хворым членам сям'і. Дапамога па доглядзе не прызначаецца і не выплачваецца за перыяд працоўнага водпуску, за перыяд пасля спынення работы па працоўным і грамадзянска-прававым дагаворы.

Акрамя таго, лісток непрацаздольнасці па доглядзе за хворым членам сям'і амбулаторна выдаецца на перыяд, на працягу якога дзіця мае патрэбу ў доглядзе, ад дня, з якога асобе, што даглядае, неабходнае вызваленне ад працы ці ад іншай дзейнасці, але не раней, чым за тры каляндарных дні да названай даты.

Асобам, якія займаюцца дзейнасцю, прадугледжанай заканадаўствам і якія самастойна выплачваюць абавязковыя страхавыя ўнёскі ў бюджэт фонду на сацстрахаванне ў адпаведнасці з заканадаўствам аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні, дапамогі прызначаюцца па выпадках часовай непрацаздольнасці, цяжарнасці і родаў, што наступілі ў перыяд выплаты імі ўнёскаў у абавязковым ці добраахвотным парадку:

- у годзе пастаноўкі іх на ўлік у якасці плацельшчыкаў у органах Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, калі ў гэтым годзе да надыходу названых выпадкаў яны выплацілі абавязковыя страхавыя ўнёскі ў бюджэт фонду на сацстрахаванне не менш чым за 30 каляндарных дзён;
- у бягучым каляндарным годзе, калі паводле дакументаў персаніфікаванага ўліку за справаздачны (мінулы) год абавязковыя страхавыя ўнёскі ў бюджэт фонду на сацыяльнае страхаванне яны выплацілі не менш чым за 183 каляндарных дні справаздачнага года альбо за ўвесь перыяд з дня пастаноўкі на ўлік да заканчэння справаздачнага года.

Яшчэ больш можна даведацца ў Палажэнні аб парадку забеспячэння дапамогамі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах, зацверджаным Пастановай Савета Міністраў ад 28 чэрвеня 2013 года №569 (з улікам апошняй рэдакцыі ад 22 сакавіка 2019 года) або ў Маладзечанскім раённым аддзеле.

Кантактныя дадзеныя: начальнік райаддзела **Марына Іванаўна Севярына – (8-0176) 746317**, намеснік начальніка **Таццяна Іосіфаўна Буцько – (8-0176) 746316.**

**Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацабароны.**

# Устанавілі найноўшы апарат МРТ амаль за два мільёны

**МАЛАДЗЕЧНА**

**14 чэрвеня ў Маладзечанскай ЦРБ урачыста адкрылі новы кабінет магнітарэзананснай тамаграфіі.**



Такому апарату няма аналагаў у Беларусі.

Фота tomograph.msk.ru выкарыстана ў якасці ілюстрацыі.

Адкрыццё кабінета – першы этап рэалізацыі праекта па стварэнні ў Маладзечне Заходняга тэрытарыяльнага цэнтра спецыялізаванай медыцынскай дапамогі.

Гэты цэнтр акрамя маладзечанцаў будзе абслугоўваць жыхароў Валожынскага, Вілейскага, Мядзельскага раёнаў. Згодна з праектам да 2020 года на базе ЦРБ адкрыюць кабінеты ангіяграфічнага комплексу і камп'ютарнай тамаграфіі.

Галоўны доктар Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы **Дар'я Калядзіч** распавяла, што працы па адкрыцці кабінета МРТ доўжыліся крыху больш за паўгода.

Усяго выдаткавалі каля трох мільёнаў рублёў. Кошт апарата МРТ – 1,97 мільёна.

Гэта найноўшая мадэль германскай фірмы «Сіменс» 2018 года распрацоўкі, яе аналагаў у Беларусі няма. За аператыўнае і якаснае выкананне будаўніча-мантажных работ старшыня маладзечанскага райвыканкама **Юры Горлаў** уручыў Падзячныя лісты райвыканкама дырэктару ААТ «Забудова-Буд» **Міхаілу Бураку,** выканальніку абавязкаў галоўнага інжынера ўпраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкама **Андрэю Лушчыку.**

Пры падрыхтоўцы памяшканняў для ўстаноўкі апарата МРТ кіраўніцтва ЦРБ улічыла ўсе нюансы. Стварылі ўмовы для працы медыкаў, абсталявалі пакой прыёму ежы.

Для пацыентаў прадугледжаны кабінеты для падрыхтоўкі да даследавання, санітарна-гігіенічныя пакоі. У фае ўсталявалі кандыцыянер, тэлевізар.

Загадчык кабінетам МРТ **Яўген Каркоцкі** пазнаёміў удзельнікаў мерапрыемства з прынцыпам працы апарата, прадставіў калег.

Акрамя яго тут пазменна працуюць дактары **Анастасія Пятровіч і Кацярына Луцкая**, укамплектаваны штат рэнтген-лабарантаў.

Медперсанал праходзіў навучанне на базе Мінскай абласной бальніцы.

– У тэставым рэжыме апарат працуе ўжо месяц, – распавядае Яўген Каркоцкі. – За гэты час з яго дапамогай мы паставілі правільны дыягназ дзясяткам пацыентаў, пераканаліся, наколькі гэта дакладны і высокатэхналагічны метад даследавання.

Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел старшыня Маладзечанскага райвыканкама Юры Горлаў, старшыня раённага Савета дэпутатаў **Андрэй Паўкшта,** дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Людміла Кананові,** начальнік галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя Мінскага аблвыканкама **Наталля Баярская,** галоўны доктар Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы Дар'я Калядзіч.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

# ДАІ праверыць, як кіроўцы і пасажыры прышпільваюцца рамянямі

**28 чэрвеня Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна праводзіць Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам «Сеў у машыну – прышпілі рэмень!».**

Яго праводзяць з мэтай прафілактыкі дарожна-транспартных здарэнняў, недапушчэння фактаў парушэнняў правілаў перавозкі пасажыраў, у тым ліку і непаўналетніх. Таксама будуць папулярызаваць выкарыстанне рамянёў бяспекі і дзіцячых утрымліваючых прылад дарожнага руху пад дэвізам: «Сеў у машыну – прышпілі рэмень!».

Паводле даследаванняў, для людзей, выкінутых з аўтамабіля падчас ДТЗ верагоднасць загінуць у дзясяткі разоў больш, чым для тых, якія засталіся ў машыне. Статыстыка ДТЗ паказвае, што 80% кіроўцаў і пасажыраў, якія карысталіся рамянём бяспекі, патрапіўшы ў ДТЗ, не атрымалі ніякіх раненняў.

Навукоўцы вышэйшага інстытута аховы здароўя Італіі даказалі, што прымяненне рамянёў бяспекі ў 21 краіне спрыяла скарачэнню колькасці ДТЗ з цяжкімі траўмамі і смяротным зыходам на 60-80%, а з менш цяжкімі – на 40-60%.

Французскія спецыялісты ў галіне пасіўнай бяспекі аўтамабіля ўстанавілі, што пры франтальным сутыкненні рамяні бяспекі ў дзевяць разоў зніжаюць верагоднасць атрымання цяжкіх або смяротных раненняў галавы ў пасажыраў на пярэдніх сядзеннях.

Фірмы-вытворцы аўтамабіляў, абсталяваных падушкамі бяспекі, сцвярджаюць, што названыя прылады эфектыўныя толькі пры выкарыстанні кіроўцамі і пасажырамі рамянёў бяспекі.

Многія кіроўцы аўтатранспарту скардзяцца на тое, што прышпіліўшыся, за рулём адчуваюць сябе некамфортна. І гэта замінае ім кіраваць аўтамабілем. Але ёсць і тыя, якія наадварот, не прышпіліўшыся, адчуваюць дыскамфорт і неабароненасць.

Людзі, якія задумваюцца аб сваёй бяспецы, пачынаюць няўхільна выконваць патрабаванні Правіл дарожнага руху. І калі гэта ўваходзіць у норму, іх дзеянні даходзяць да аўтаматызму. Часам не прышпілены кіроўца, патрапіўшы нават у нязначнае ДТЗ, дзе ў аўтамабіля няма сур'ёзных пашкоджанняў, атрымлівае траўмы, несумяшчальныя з жыццём, ці застаецца інвалідам.

Ад пачатку года на тэрыторыі Мінскай вобласці адбылося дзесяць ДТЗ з удзелам дзяцей-пасажыраў, у якіх 15 дзяцей атрымалі траўмы. У васьмі здарэннях пацярпелыя дзеці не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі, а малалетнія пасажыры былі ў салоне аўтамабіля без спецыяльных аўтакрэслаў.

У астатніх ДТЗ малалетнія пасажыры знаходзіліся ў аўтакрэслах, а старэйшыя былі прышпіленыя рамянямі бяспекі, дзякуючы чаму ўдалося пазбегнуць сур'ёзных наступстваў.

Нагадаем, згодна з пунктам 178 ПДР «Перавозка дзяцей у легкавым аўтамабілі, абсталяваным рамянямі бяспекі, павінна ажыццяўляцца з выкарыстаннем:

- дзіцячых утрымліваючых прылад, якія адпавядаюць вазе і росту дзіцяці, – ва ўзросце да пяці гадоў;
- дзіцячых утрымліваючых прылад, якія адпавядаюць вазе і росту дзіцяці, іншых сродкаў (бустар, спецыяльныя падушкі для сядзення, дадатковыя сядзенні), якія дазваляюць бяспечна прышпіліць дзіця з дапамогай рамянёў бяспекі, прадугледжаных канструкцыяй аўтамабіля – ва ўзросце ад пяці да дванаццаці гадоў.

Дапускаецца перавозіць дзяцей ва ўзросце да дванаццаці гадоў без выкарыстання названых у прылад, калі рост дзіцяці перавышае 150 сантыметраў, а таксама ў аўтамабілі-таксі.

Забараняецца перавозка дзяцей на пярэднім сядзенні легкавога аўтамабіля з выкарыстаннем дзіцячых утрымліваючых прылад, адпаведных вазе і росту дзіцяці, спінка якіх разгорнутая да лабавога шкла машыны, калі пярэдняе сядзенне мае падушку бяспекі, за выключэннем выпадку, калі механізм франтальнай падушкі бяспекі адключаны.

Дапускаецца выкарыстанне не толькі дзіцячых крэслаў, але і іншых прылад, якія дазваляюць бяспечна прышпіліць дзіця з дапамогай штатных рамянёў бяспекі.

У рамках Дня бяспекі супрацоўнікі ДАІ звяртаюць увагу, ці прышпіленыя рамянямі пасажыры і кіроўцы. Нагадаем, што за дадзенае парушэнне згодна з часткай 4 артыкула 18.12 КаАП кіроўца можа атрымаць штраф да 25, 50 рубля або папярэджанне.

За парушэнне правілаў перавозкі дзяцей у адпаведнасці з ч.5 арт.18.14 КаАП кіроўцу таксама чакае папярэджанне або штраф да 102 рублёў.

Паважаныя кіроўцы! Паклапаціцеся загадзя пра сваіх пасажыраў. Перавозьце дзяцей толькі ў спецыяльных утрымліваючых прыладах. Прасачыце за тым, каб усе пасажыры былі прышпіленыя рамянямі бяспекі. Не забывайце самі прышпільвацца.

Памятаеце, гэта дапаможа захаваць сабе і іншым жыццё і здароўе!

**Сяргей БАРТОШ,**
**ДАІ Маладзечна.**




Фан-сектар ФК «Маладзечна» на выяздной гульні з ФК «Узда».

# Кузьмічы, ружы, выезды. Як жыве маладзечанскі «каляфутбол»

**Футбольны фанатызм як субкультура стаў зараджацца прыкладна ў 1950-х гадах у Вялікабрытаніі. Тады наведванне футбольных матчаў стала адным з асноўных і самых даступных варыянтаў баўлення часу для моладзі. З'явілася традыцыя ездзіць за любімай камандай у іншыя гарады на яе гасцявыя матчы – на выезды.**

У футбольных фанатаў у Беларусі і ва ўсім свеце заўсёды была неадназначная рэпутацыя. Іх лічылі хуліганамі, якіх цікавяць не футбол, а бойкі з заўзятарамі іншых каманд.

– Час змяніўся, змяніўся і фанацкі рух, – распавядае **Раман Бялько**.

Рома – спокмэн маладзечанскіх фанатаў. Спокмэны, іх яшчэ называюць завадзілы, першымі з усяго фан-сектара заводзяць крычалкі і песні. Лепш за ўсіх пра фанацкі рух можа распавесці менавіта спокмэн.

### Фанацкаму руху Маладзечна споўніўся 21 год

20 чэрвеня – важны дзень у гісторыі футбольнага Маладзечна. 21 год таму заўзятары заснавалі фанацкі рух, які цяпер называецца «Маладзечна Супортэрс». Заўзятары адзначаюць гадавіну на футбольных матчах. У гэтым годзе фанаты ФК «Маладзечна» дамовіліся з заўзятарамі ФК «Узда» правесці таварыскі матч перад гульнёй сваіх каманд.

Маладзечанскія «ультрас» зладзілі сабе маленькае свята ў сяброўскай атмасферы. У матчы прынялі ўдзел фанаты розных узростаў – ад 14 да 30 гадоў. Таварыская гульня была арганізавана ў лепшых традыцыях: з піратэхнікай, фаерамі і банерамі.

У маладзечанскім футбольным руху існуе своеасаблівая дэмакратыя. Першае правіла руху: усе роўныя. Дапусцім, кожны з балельшчыкаў можа самастойна заняцца арганізацыяй выезду на гасцявую гульню.

Аднак ёсць нязменныя рэчы, якія ўжо ўкараніліся ў свядомасці фан-сектара.

– У нашым фанацкім руху няма дзяўчат. Ніхто не маю супраць, але так ужо склалася. Я б камфортна сябе адчуваў, калі на сектары былі толькі дзяўчаты. Можа, толькі ледзь-ледзь здзівіла. На самай справе, у дзяўчынках у фанацкім руху няма нічога дрэннага. Чым больш фанатаў, тым лепш, – дзеліцца **Раман**.

### Фанацкі рух змяніўся

Фанацкія групоўкі заўсёды былі абавязковым атрыбутам футбола ў любой краіне свету. У Маладзечне таксама сочаць за модай і імкнуцца не адставаць ад сусветных павеваў. Радыкальныя прадстаўленні на трыбунах маладзечанскі фан-сектар не робіць, таму што могуць стацца непрыемныя наступствы.

> **– Мы хочам ладзіць шоу на трыбунах, але не можам гэтага зрабіць. Фаер-шоу забароненыя. Нам не патрэбныя лішнія праблемы, не хочам канфліктаў з міліцыяй. Шумныя пэрформансы мы стараемся не ладзіць.**

Змяняецца не толькі фанацкі рух, але і людзі, якія знаходзіліся на сектарах. Старэйшыя сыходзяць з «ультрас» па зразумелых прычынах – сям'я ці праца. Іх становіцца ўсё больш складана замяніць моладдзю, таму што да гэтага часу многія лічаць фанатаў парушальнікамі парадку.

– Людзі ўяўляюць нас дурнямі, якіх насамрэч не цікавіць футбол. Яны думаюць, што мы знаходзімся ў руху таму, што проста хочам біцца. Гэта не так. Я люблю футбол, хаджу на трыбуны менавіта з-за таго, што хачу яго глядзець і падтрымліваць любімую каманду. У руху былі зусім розныя людзі. Са мной на трыбуне былі настаўнікі і простыя майстры.

Розныя меркаванні ад людзей адносна «ультрас» не перашкаджаюць фанатам падтрымліваць сваю каманду каторы год запар. Заўзятары ўжо больш за два дзясяткі гадоў ездзяць з ФК «Маладзечна» на выезды. Выезды – найважнейшая частка ў культуры футбольных фанатаў.

### Як фан-сектар плануе выезды

У самым пачатку сезона федэрацыя футбола публікуе каляндар матчаў. Заўзятары плануюць выезды ў залежнасці ад аддлегласці да каманды сапернікаў. Да Чысці фан-сектар ФК «Маладзечна» дабіраецца на электрычцы, а потым на аўтобусе. У гэтым выпадку працуе самаарганізацыя. На далёкія выезды – Горкі і Пінск – заўзятары заказвалі транспарт. У сярэднім на гасцявыя матчы маладзечанскай каманды прыязджаюць каля 15 чалавек.

Па словах Рамана, такая колькасць заўзятараў на выязных сустрэчах – нармальная сітуацыя для Другой лігі. А часам выезды можна запомніць дзякуючы цікавым гісторыям. Такія гісторыі звязваюць з камандай.

– У нас не было грошай, а на выезд хацелася патрапіць. У выніку была дарога ў адзін канец. Ты едзеш на футбол, але не ведаеш, як вярнуцца назад. Усё роўна падтрымаць каманду трэба. І вось мы вярталіся, у нас зламалася электрычка, спазніліся на 20 хвілін, і прыйшлося начаваць на нейкім вакзале, – распавядае Раман Бялько.

### Фанаты ствараюць атрыбутыку і клічуць на трыбуны

На фанацкім слэнгу шалікі называюць «ружамі». У маладзечанскіх «ультрас» ёсць каля пяці разнавіднасцяў «ружаў», якія яны робяць самастойна. У фанатаў існуе цікавая традыцыя: футбалісты мяняюцца майкамі пасля гульні, а заўзятары мяняюцца шалікамі.

Па словах Ромы, зусім не важна, ці ёсць у цябе шалік. Фанаты хочуць бачыць на трыбунах больш людзей, каб ствараць атмасферу свята на футболе. А простых гледачоў фан-сектар называе «кузьмічы».

– Так даўно павялося. Ніхто не можа ўжо і ўспомніць, чаму мы так называем звычайных людзей. Напэўна, у фанатаў сфармаваўся вобраз, што на футбол прыходзяць працоўныя мужыкі, якія проста хочуць адпачыць пасля цяжкага дня. Кузьмічы!

Кожны можа стаць часткай фанацкага руху. Гэта называецца «прыйсці на сектар».

> **– Ніхто цябе не прагоніць, у нас сяброўская атмасфера і ўсе дапамогуць уліцца ў калектыў.**

У гэтыя выхадныя ФК «Маладзечна» згуляе з «Асіповічамі». Сустрэчу абедзвюх каманд заўзятары называюць «зялёна-белым дэрбі». Фан-сектар запрашае жыхароў Маладзечна падтрымаць каманду.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



# Крыжаванка

## ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Тое, што здарылася, здарэнне; факт, з'ява.
3. Азіяцкі горад-дзяржава, дзе цалкам пазбавіліся ад камароў.
6. Паводле амерыканскай пагаворкі, нішто не можа зрабіць жанчыну больш шчаслівай, чым букет гэтых кветак. Яны могуць упрыгожваць клумбу да ста год. Існуюць розныя колеры і адценні гэтай кветкі, акрамя блакітнага.
8. Прыстасаванне для выхаду праз сцяну.
9. Бяздомны чалавек, які не мае пэўнага прыстанішча і заняткаў.
10. У элітных лонданскіх атэлях гэтым прыстасаваннем апрацоўваюць газеты і часопісы, каб друкарская фарба не запэцкала рукі.
12. Від гарадскога транспарта.
13. Авальны плод з тоўстай пахучай жоўтай скуркай, кіслы на смак.
14. Моцны рэзкі штуршок, сутыкненне ў час руху.
16. Малюнак, у якім спалучаюцца ў поўным парадку лініі, колеры, фігуры.
18. Павадыр статка, чарады.
20. Філасофскае вучэнне, якое пачаткам быцця лічыць дзве самастойныя першаасновы – матэрыяльную і ідэальную.
22. Элемент дарогі, прызначаны для руху пешаходаў.
25. Грандыёзнасць, незвычайная сіла праяўлення, што выклікае вялікую павагу.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Казачнае страшыдла, змей, ад позірку якога гіне ўсё жывое.
4. Нацыянальны від спорту ў Канадзе.
5. Адзін з парных знакаў прыпынку ў выглядзе простай або закругленай вертыкальнай рысы.
7. Першая прафесія Артура Конана Дойля, аўтара дэтэктываў пра Шэрлака Холмса.
11. Той, хто валодае левай рукой лепш, чым правай.
13. Падвесны асвятляльны прыбор з некалькімі крыніцамі святла.
15. Такія дошкі вынайшла група амерыканскіх студэнтаў у 2008 годзе. Пасля яны сталі вельмі папулярнымі і іх купляюць для школ і офісаў. Што робіць такія дошкі адметнымі?
16. Валодаць уменнем, навыкамі.
17. Сярэдневяковая прылада для катаванняў.
19. Культавы амерыканскі музычны гурт, створаны ў 1981 годзе ў Сан-Францыска.
21. Адзінае месца такога тыпу ў Беларусі знаходзіцца ў Мядзельскім раёне. Гэта гістарычнае месца пакланенне вернікаў-каталікоў, якое імітуе Крыжовы шлях Езуса Хрыста.
23. Прозвішча беларуска-чылійскага дзеяча, які за тры месяцы авалодаў іспанскай мовай і паступіў ў Віленскі ўніверсітэт у 14 гадоў.
24. Вонкавая абалонка плода, семя.
26. Дзіцячая цацка ў выглядзе фігуркі чалавека.

## Адказы на крыжаванку з №25

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Сатыра. 2. Шнур. 4. Іран. 9. Шаля. 10. Мяккі. 11. Клапдайк. 12. Бухта. 13. Момант. 14. Шмалец. 18. Спроба. 19. Сага. 22. Бярэмя. 23. Сталіца. 26. Слон. 27. Ківі. 28. Ашмяны. 30. Шкала.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Астраномія. 5. Гузік. 6. Муштра. 7. Шчака. 8. Лаканізм. 12. Брыдка. 15. Бяспека. 16. Сальта. 17. Мітусня. 20. Ананас. 21. Агонь. 22. Бацька. 24. Орда. 25. Мэрлін. 29. Воўк. 31. Мэта.

## ГАРАСКОП 28 ЧЭРВЕНЯ – 4 ЛІПЕНЯ


**АВЕН.** Цаніце тых, хто побач з вамі. Часам неасцярожнае слова можа аддаліць ад вас чалавека. А ў момант, калі вам спатрэбіцца падтрымка, людзям уласціва прыгадваць не самае лепшае. Таму выдаткоўвайце сілы і час на добрыя адносіны.


**ЦЯЛЕЦ.** Заўсёды знойдзецца нехта, хто пераўзыходзіць вас у прафесійных якасцях. Больш кваліфікаваны, адукаваны або крэатыўны чалавек. Таму пагоня за першым месцам не мае ніякага сэнсу. Рабіце тое, што блізка менавіта вам.


**БЛІЗНЯТЫ.** Якога б узросту вы не былі, цяпер самы час завесці новых сяброў. Магчыма, вы бліжэй пазнаёміцеся з калегам або з суседам. Вам дакладна патрэбны чалавек, з якім можна падзяліцца перажываннямі і радасцямі, і вы яго знойдзеце.


**РАК.** Калі ўвесь час займацца дробнымі справамі, не знойдзецца часу на вялікія подзвігі. Таму часам трэба смеласць, каб адмовіцца ад драбязы і замахнуцца на справу сваёй мары.


**ЛЕЎ.** Часам нашы асабістыя складанасці падаюцца такімі гіганцкімі, што мы не бачым, чым жывуць калегі і блізкія. Часам варта прыглядзецца, каб убачыць, што камусьці неабходная ваша падтрымка. Тады ў час вашай патрэбы і вы атрымаеце яе.


**ДЗЕВА.** Простыя радасці – самыя каштоўныя. Звычайная прагулка цёплым летнім вечарам у добрай кампаніі можа спрацаваць лепш за тыдзень у пяцізоркавым гатэлі на беразе мора.


**ШАЛІ.** Паспрабуйце паклапаціцца пра сваіх блізкіх. Прыгатуйце смачную вячэру, прыгожа засервіруйце стол, адключыце гаджэты. Самі ўбачыце, наколькі гэтага не хапала ўсім вам.


**СКАРПІЁН.** Пакуль вы вызначаеце межы дазволенага, другі бок можа назаўсёды закрыць дзверы. Некаторыя масты можна пабудаваць толькі на шчырасці.


**СТРАЛЕЦ.** Самы час скласці спіс пяці самых важных спраў. Закончыце іх – і ўзнагародзьце сябе запамінальным адпачынкам.


**КАЗЯРОГ.** Праца цяпер павінна стаць на пярэдні план. Прычым не толькі тая, што прыносіць даход. Паклапаціцеся пра агарод або балкон, дапамажыце сталым сваякам або суседзям, пазаймайцеся з дзецьмі. Вы самі атрымаеце асалоду.


**ВАДАЛЕЙ.** Займіцеся сваёй фізічнай формай. Сачыце за харчаваннем і актыўнасцю. Не для таго, каб красавацца ў купальніку, а каб адчуваць сябе найлепшым чынам.


**РЫБЫ.** У мітусні не заўсёды ёсць магчымасць прысвяціць час самім сабе. Адсуньце справы і дайце сабе час пабыць толькі з сабой. Няхай гэта будзе не дома, а ў незнаёмым месцы, куды вы паедзеце адмыслова для такой падзеі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | 9 | 6 | 1 | | | | |
| | | 6 | | | | | 8 | 2 |
| 4 | | 3 | | | | | 5 | |
| | 9 | | 3 | 5 | | | | |
| 3 | | | 1 | | | | 7 | |
| 6 | | | | 7 | 4 | | | |
| | | | | 3 | 1 | 8 | 6 | |
| | | | | 6 | 2 | 5 | | |
| | | | | 8 | 7 | 2 | | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015




● ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

***

Маршрутка Мінск-Маладзечна. Чытаю кнігу пра свой радавод. На ўсю старонку – вялікі каляровы герб. Бачу, што мужчына побач доўга заліпае ў яго. Урэшце кажа:

– Красівы які герб, з птічкай. Гэта чый?

– Маіх продкаў.

– Ооо, дык ты графіня?

– Ды не, якая з мяне графіня.

– А ў нас у вёсцы ёсць адна.

– Праўда графіня? А якое прозвішча?

– Пры чым тут прозвішча!.. Ёй на свадзьбе хто-та графін аб галаву разбіў, а ёй хоць бы што! Вот гэта я панімаю графіня! А не эці твае гербы!

***

На касе ў адной краме.

– Ой не, мне без пакеціка...

– Дзевушка, так жа удобнее нясці!

Голас касіркі з суседняй касы:

– Тамара, ты толька с ней не начінай, а то лекцыю прачытае, сама пажалееш! Яна з гэтых, с убеждзеніямі! Будзеш пакет саваць – дык яшчэ жалавацца пойдзе.

## Адкрылі выставу, прысвечаную 75 гадавіне вызвалення Беларусі

ВІЛЕЙКА

**Вы ведаеце, як напарнік Юрыя Нікуліна, клоўн і акрабат Міхаіл Шуйдзін звязаны з Вілейкай?**

Каб даведацца, прыходзьце на выставу, што працуе ў Вілейскім краязнаўчым музеі.

– Экспазіцыя, прысвечаная 75-гадавіне вызвалення Беларусі, доўгатэрміновая. Працягнецца да наступнага года, – расказала карэспандэнту дырэктар музея **Надзея Аўдзей.**

Па словах дырэктара, выстава складаецца з некалькіх частак.

Першая – «Беларуская хата» – паказвае хату, якую заспела вайна. Тут сімвалічныя рэчы, старыя фотаздымкі.

Другая – прысвечаная вогненным вёскам Вілейшчыны. Тут і Хаценчыцы, якія спалілі першымі ў 1941 годзе. І Любча з Боркамі, якія не адрадзіліся.

Ёсць таксама звесткі пра жыхароў Вілейшчыны, якіх падчас вайны вывезлі ў Германію.

Раздзел «Зона» распавядае пра партызанскія злучэнні, што дзейнічалі ў Вілейскім раёне.

Пра 35 танкавую дывізію пад кіраўніцтвам **Азі Асланава** і аднаго з абаронцаў Вілейкі **Міхаіла Шуйдзіна** – у раздзеле «Вызваленне».

Міхаіл Шуйдзін вызваляў Вілейку, а пасля вайны разам з Нікуліным быў клоўнам у цырку.

Напрыканцы выставы наведнікам прапануюць белыя аркушы, каб напісаць на іх імёны і прозвішчы сваякоў, якія ваявалі або жылі пад акупацыяй.

Усе раздзелы выставы ілюструюць графічнымі творамі мастакоў **Арлена Кашкурэвіча** і **Георгія Паплаўскага.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень

● **30 чэрвеня ў Маладзечне – рэгіянальны фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Імпрэза праводзіцца па чарзе ў адным з раёнаў Беларускага Павілля і Валожыншчыне: Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім і Валожынскім Мінскай вобласці і Смаргонскім, Ашмянскім, Астравецкім Гродзенскай вобласці.**

## 29 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +5°С у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +27,8°С у 2018 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,5 мм у 2013 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Кроч у лета з «Рэгіянальнай газетай»!



**Падпісацца на «РГ» можна:**

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 27 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 81 рубель.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вам падабаецца ў Маладзечне?



**Мікіта Буто, вадзіцель:**

– Наш горад – агонь. Усё прыгожа, ды і парк выдатны. Але вось у парку няма куды схадзіць, акрамя як пасядзець на лаўцы.



**Марк Траццяк, маркетолаг:**

– Месца, якое робіць наш горад, – гэта наш парк.



**Аляксандр Кавалеўскі, студэнт:**

– Мне больш за ўсё падабаюцца тры месцы ў горадзе пасля «Дажынак». Брадвей, які быў звычайнай праезнай вуліцай, а стаў спакойным месцам, дзе можна пасядзець і адпачыць. Другое – гастра-вуліца. Гэта, скажам, адзін з адметных знакаў Мола. Ну а трэцяе, канешні, парк.



**Аліна Даніленка, студэнтка:**

– Мне падабаецца Брадвей, там хораша. У Мінску толькі нядаўна нешта накшталт такога зрабілі. Маладзечна вельмі зручны горад, усё неабходнае для жыцця ёсць! Напрыклад, крамы, і іх дастаткова. Для адпачынку і забаў дастаткова ўсяго. Лацінаамерыканскія бургеры – клас! А яшчэ і парк топавы.



**Лаура Харчук, настаўнік:**

– За прыгажосць, чысціню, дагледжанасць, кветкавыя клумбы ў выглядзе парасонаў, і наогул за багацце кветак. За знаёмых на кожным кроку, за частыя салюты, якія можна бачыць проста з акна. За прыемныя моманты, вяселле і нараджэнне дзяцей. За яго прыгожую назву: Маладзечна.



**Ілля Шыдлоўскі, інжынер:**

– Я толькі другі раз у Маладзечне, таму не магу меркаваць. Мне спадабаўся парк, ён вельмі вялікі і прыгожы. Можна там доўга гуляць. Спадабалася, што ёсць шмат пунктаў з ежай, асабліва бургеры на вуліцы стрыт-фуда класныя.



**Руслан Гарошка, індывідуальны прадпрымальнік:**

– Мне падабаюцца культурныя славутасці нашага горада. Заўсёды ёсць, куды схадзіць. А яшчэ пагладзіце на надвор'е: яно заўсёды добрае.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№25 (1260) 21.06.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 993. Падпісана ў друк у 9.00 20.06.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.